ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 31 (2610)
ПЯТНІЦА
4
жніўня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## ЛАБА ДЗІЕНА, ЛЕТУВА!




На свята песні! Фота А. БАРЫСАСА.

50 год утварэння СССР

Добры дзень, Літва — краіна блакітных азёр і залатых жытнёвых палёў!

Мы — суседзі... З незабыўных старажытных часоў сябруюць працавітыя літоўцы і беларусы. Разам у ліхую часіну паўставалі на абарону свабоды і незалежнасці сваёй радзімы, разам давалі знішчальны адпор крывавым захопнікам. Застанецца назаўсёды ў гісторыі, у памяці народнай наша сумесная барацьба супраць фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Ніколі не забудуць літоўцы і беларусы аб страшэнных ахвярах яе, аб трагічным лёсе невялікага літоўскага сяла Пірчупіс, жыхароў якога фашысты жывымі спалілі за дапамогу партызанам, і такой жа жудаснай трагедыі вёскі Хатынь...

Мінулі часы ліхалецця. І сёння мы шчыра радуемся шчасліваму жыццю нашых суседзяў, якія ў адзінай дружнай сям'і братніх савецкіх народаў дасягнулі вялікіх поспехаў у самых розных галінах эканомікі і культуры. Мы радуемся іх дасягненням у літаратуры і мастацтве. Мы любім іх цудоўныя песні... Іх мастацкасць гаворыць пра незвычайную паэтычную таленавітасць літоўскага народа, які заслужана здабыў Літве славу краіны песні. Дайны і сучасныя песні аб новым жыцці літоўца гучаць па радыё і тэлебачанні, звіняць у калектывах мастацкай самадзейнасці, на святах песні, у якіх прымаюць удзел дзесяткі тысяч спевакоў.

...Учора споўнілася 32 гады, як Літва была прынята ў склад Савецкага Саюза. І мы горача віншуем сяброў-літоўцаў з гэтай знамянальнай датай, ад усяго сэрца жадаем ім новых поспехаў у сацыялістычным будаўніцтве.

# ПОПЛЕЧ!

Іван ШАМЯКІН,
народны пісьменнік БССР

Сталіцы нашых рэспублік знаходзяцца на адлегласці ўсяго трох гадзін спакойнай язды на аўтамабілі. Адны і тыя ж палеткі і падобныя, як сёстры, сосны суправаджаюць падарожніка ад Мінска да Вільнюса. З падручнікаў па геаграфіі для пачатковай школы мы ведаем пра беларуска-літоўскую граду, зямля на якой з ледніковага часу да нашых дзён была густа засеяна каменнем. Ды не толькі прырода аб'ядноўвае, родніць нашы рэспублікі. Аб'ядноўвае гісторыя народаў, складаная і пакутная ў часы панавання князёў і каралёў літоўскіх, польскіх, рускіх, але адзначаная шматлікімі помнікамі братэрства народаў-суседзяў, іх сумеснай барацьбой супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, верай у перамогу і шчасце. Навечна народы нашы аб'ядналі Вялікі Кастрычнік, год 1940, калі літоўскі народ, разумеючы, што ёсць толькі адзіны шлях для захавання нацыянальнай самастойнасці і адраджэння — еднасць з народамі Краіны Саветаў, вярнуўся ў Саюз непарушны рэспублік свабодных, барацьба лепшых сыноў Літвы на франтах, у партызанскіх лясах побач з рускімі, беларусамі, украінцамі, узбекамі, грузінамі, сынамі ўсіх савецкіх народаў супраць нямецкага фашызму, — гэтыя падзеі недалёкай гісторыі назаўсёды вызначылі лёс старажытнага і заўсёды маладога прыбалтыйскага народа, яго пачэснае і прыкметнае месца сярод народаў свету.

Кожны год і кожны дзень савецкай рэчаіснасці прыносяць такія звесткі аб шэсці літоўскага народа ў адзіным страі з народамі-братамі да светлай мэты, якія не могуць не радаваць, не захапляць кожнага сумленнага чалавека.

У ЗША зноў праводзіўся «тыдзень заняволеных нацый» — правакацыйная кампанія, якая бласлаўляецца афіцыйнымі ўладамі, прэзідэнтам і якая служыць чорнай справе нагнятання напружанасці паміж народамі і дзяржавамі. «Ястрабы», іх прыслужнікі і лёкаі — буржуазныя нацыяналісты, якіх народы нашых краін назаўсёды вымелі, як смецце, і якім няма звароту назад, у гэты «тыдзень» узнімаюць лямант і плач, выццё і скуголенне аб лёсе «заняволеных» народаў. У «Нью-Йорк таймс» з'явілася перадоўка аб «няшчаснай», «маленькай» Літве, якой пагражае небяспека «русіфікацыі». Брахунам з «Нью-Йорк таймс» адказаў на старонках «Дэйлі уорлд» амерыканскі публіцыст Філіп Баноскі. Вось яго словы:


Іван Шамякін і Юсцінас Марцінкявічус.
Фота А. ЛАСМІНСКАГА.

«Толькі калі я сам наведаў Літву — упершыню ў 1959 годзе і яшчэ некалькі разоў пасля — я пачуў сапраўдную жывую літоўскую мову (адну з самых старажытных у Еўропе) і ўласнымі вачамі ўбачыў, якія цуды росту і развіцця зрабіла гэтая сацыялістычная краіна, якая налічвае тры мільёны жыхароў і якая страціла 700 тысяч чалавек у вайне супраць нацысцкіх варвараў і іх прыслужнікаў — літоўскіх фашыстаў (многія з гэтых здраднікаў пасля ўцяклі ў Амерыку і па іх дагэтуль плача вяроўка)».

І далей Баноскі піша: «Яшчэ ніколі гэты народ не быў такі здаровы, ніколі літоўцы не жылі так доўга, ніколі так добра не харчаваліся і не апраналіся, ніколі не мелі такіх цудоўных жыллёвых умоў».

Магчыма, у амерыканскага публіцыста не было пад рукой лічбаў, якія маглі б надзвычай красамоўна пацвердзіць яго шчырыя словы.

Вось яны, некаторыя з лічбаў. У 1970 годзе Літва вырабіла прамысловай прадукцыі ў 31 раз больш, чым у 1939 годзе.

Варта адзначыць, што ў новай пяцігодцы, ажыццяўляючы рашэнні XXIV з'езда КПСС, працоўныя Літвы дадуць прадукцыі ў паўтара разы больш, а выпуск электроннай апаратуры падвояць, тэлевізараў і халадзільнікаў — патрояць.

Толькі адна электрастанцыя ў Электронай у 20 разоў дае больш энергіі, чым усе станцыі буржуазнай Літвы.

Прапагандысты «раю» ў буржуазнай Літве любяць спасылацца на «поспехі» тагачаснай сельскай гаспадаркі — гаспадаркі кулакоў і памешчыкаў. Але пра іншае гаворыць няўмольная статыстыка. У 1939 годзе на кожнага жыхара было вырашчана 58 кілаграмаў мяса і надоена 400 літраў малака, а ў 1970 годзе — 125 кілаграмаў мяса і 793 літры малака. Па надоях малака Савецкая Літва апярэдзіла Галандыю, якая стагоддзі трымала першынство ў Еўропе ў гэтай галіне.

Колькасць студэнтаў на 10 тысяч чалавек насельніцтва ў Літве амаль у два разы вышэй, чым у Японіі, і ў тры разы вышэй, чым у Англіі.

Вось яна, сённяшняя Літва, аб лёсе якой плачуць ханжы і клікушы з «Нью-Йорк таймс» ды і іншых «лісткоў» і «галасоў» імперыялістычнай прапаганды!

Мы, беларусы, шчыра, па-братняму, радуемся выдатным поспехам нашага бліжэйшага суседа.

Аб сувязях, дружбе лепшых прадстаўнікоў нашых культур напісана нямала шчырых, пранікнёных слоў і ў Літве, і ў нас, у Беларусі. Але, магчыма, яшчэ мала ёсць глыбокіх даследаванняў аб узаемных уплывах нашых культур, літаратур, асабліва аб тых уплывах, якія маюць месца ў савецкі час.

Калі я ўпершыню глядзеў непаўторныя дзівосныя карціны М.-К. Чурлёніса, то прыгадаў, што Янка Купала быў знаёмы з літоўскім мастаком і кампазітарам, што нейкі час яны нават жылі ў Вільнюсе ў адным доме. Пасля знаёмства з жывапісам і музыкай Чурлёніса я паінакшаму, здаецца мне, глыбей прачытаў некаторыя вершы Купалы перыяду 1910—14 гадоў.

Хіба гэта не тэма для сур'ёзнага ўдумлівага даследчыка?

Нашы сучаснікі — Рыгор Шырма, Максім Танк, Піліп Пестрак, Міхась Машара, успамінаючы сваю дзейнасць у Вільнюсе ў 20—30 гадах, надзвычай цёпла адзываюцца аб сустрэчах, дружбе, сумесных рэвалюцыйных выступленнях з літоўскімі пісьменнікамі, дзеячамі культуры. Пятро Глебка з любоўю ўспамінаў сваё сяброўства з Пятрасам Цвіркам у дні вайны. Шкада, што ні Цвірка, ні Глебка не пакінулі пісьмовых успамінаў. Але дружба людзей — гэта заўсёды дружба літаратур, культур, якая асноўваецца на ўзаемных уплывах у творчасці, часам нябачных, глыбінных.

Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, Пімен Панчанка і мы, трохі маладзейшыя, — Андрэй Макаёнак, Янка Брыль, Іван Мележ, я — нярэдка сустракаемся з нашымі добрымі літоўскімі сябрамі А. Бляўскасам, Э. Матузявічусам, Э. Межэлайцісам, А. Жукаўскасам, Ю. Марцінкявічусам, М. Слуцкісам, многімі іншымі за бяседнымі сталамі, спяваем песні і літоўскія, і беларускія, і нашы агульныя (у нас многа агульных матываў!). Але часцей за ўсё гэтыя сустрэчы адбываюцца ў Маскве, у час пісьменніцкіх з'ездаў, пленумаў. На жаль, мы рэдка яшчэ сустракаемся ў Вільнюсе і ў Мінску, хоць нам так проста сустрэцца, рэдка абмяркоўваем тыя актуальныя і, безумоўна, агульныя праблемы, якія хвалююць нашы творчыя арганізацыі і кожнага з мастакоў. Напрыклад, літоўскі сучасны раман атрымаў шырокае ўсесаюзнае прызнанне. Няма сумнення, што вопыт літоўскіх празаікаў зацікавіць многіх нашых раманістаў. Вось бы разам пагаварыць на гэтую тэму! А нашых літоўскіх сяброў, магчыма, маглі б зацікавіць пэўныя дасягненні нашай драматургіі і паэзіі.

Бяруся сцвярджаць, што ў беларускай літаратуры ёсць тэма Вільнюса, гэтак жа, як тэма Мінска, Масквы, Ленінграда. Мы любім гэты цудоўны горад, дзе так хораша спалучаецца старажытнасць і сучаснасць, шматлікія помнікі якога красамоўна расказваюць гісторыю не толькі літоўскага народа, але і беларускага, рускага. Архітэктараў, мастакоў, пісьменнікаў і тысячы тысяч савецкіх людзей з усіх рэспублік прываблівае новы сацыялістычны Вільнюс, раёны якога, збудаваныя за апошнія дзесяць гадоў, заваявалі ўсесаюзную і нават сусветную славу і адзначаны высокімі прэміямі. Радуюць смелыя пошукі і знаходкі, рашэнні літоўскіх архітэктараў. Нашым беларускім архітэктарам ёсць пра што падумаць, пра што паспрачацца, разважаючы над вопытам літоўскіх калег. Адным словам, вельмі хочацца, каб усе мы, ва ўсіх рэспубліках, ва ўсіх сферах больш глыбока вывучалі вопыт адзін аднаго.

Такія думкі, такія пажаданні, я ўпэўнены, з'яўляюцца ў кожнага савецкага чалавека, хто разважае над вялікімі дасягненнямі партыі ў ажыццяўленні ленінскай нацыянальнай палітыкі. Думкі гэтыя асабліва актуальныя сёння — напярэдадні 50-годдзя ўтварэння Саюза сацыялістычных рэспублік.

З сардэчнымі словамі звяртаюся я да дарагіх суседзяў і братоў — літоўцаў:

Са святам вас — Днём уз'яднання ў сям'і савецкай!

Новых вам перамог і шчасця на светлай дарозе ў камунізм!

# МАСТЫ

І ВАС, І НАС аб'ядноўвае Нёман, які бярэ свой пачатак у Беларусі. Гэта цудоўная і старажытная рака — сімвал дружбы літоўцаў і беларусаў, крыніца нашага натхнення, нашых песень і вершаў. Многа разоў упамінаецца ён у літоўскіх дайнах, безліч цудоўных песень склалі пра яго плытагоны Дзукіі, жыхары Прынямоння. І на іх напевы, нібы каштоўнае і роднае рэха, адгукаюцца беларускія песні, пераплеценыя нёманскімі матывамі. І там, і тут крутыя берагі, цудоўныя па сваёй прыгажосці абрывы, шумлівыя сасновыя гаі, зялёныя даліны... І такое ж сэрца ў людзей, якія ўмеюць змагацца, выносіць найвялікшыя цяжкасці, любіць, марыць, сумаваць. Сэрца, аддадзенае айчыне, роднай зямлі, Нёману, яго чыстым водам, прывабным берагам і долам.

І таму не выпадкова матыў Нёмана так блізкі творчасці беларускіх і літоўскіх паэтаў. Невычарпальныя крыніцы Нёмана жывяць паэтычнае слова. Невычарпальныя крыніцы народнай творчасці, народнай мудрасці жывяць, узнаўляюць, асвяжаюць слова паэзіі. Нёман, яго жыватворная плынь, бессмяротны народ — усе гэтыя паняцці неяк міжволі зліваюцца ў адно, набываюць адзіны сэнс, які хвалюе, надае сілы жыць, працаваць, тварыць. Так адчуваюць свой народ, так адчуваюць Нёман — сімвал нашай дружбы — літоўскія і беларускія паэты...

Трэба адзначыць, што ў пасляваенныя гады наша творчае і культурнае супрацоўніцтва, выданне перакладаў мастацкай літаратуры, правядзенне тыдняў літаратур і іншых мерапрыемстваў, абмен творчым вопытам, добрыя, сардэчныя асабістыя кантакты паміж літоўскімі і беларускімі пісьменнікамі — без сумнення, умацавалі і пашырылі культурныя і літаратурныя сувязі дзвюх рэспублік-суседак, якія ўжо і раней мелі выдатныя традыцыі дружбы.

Сталіца Савецкай Літвы — Вільнюс, якая і раней была важным культурным цэнтрам, адыграла немалую ролю і ў беларускім культурным і літаратурным жыцці. Напярэдадні рэвалюцыі тут працавалі і жылі некаторыя беларускія пісьменнікі (у тым ліку паэтэса-рэвалюцыянерка Цётка, выдатныя паэты Янка Купала, Якуб Колас і іншыя); яны выдавалі ў Вільнюсе беларускія газеты, кнігі. Устанавілася ў іх блізкая дружба з літоўскімі пісьменнікамі, мастакамі, дзеячамі культуры таго часу. Янка Купала, напрыклад, у гэты перыяд цесна дружыў з Людасам Гірам, Марыяй Ластаўскене, кампазітарам Стасісам Шымкусам...

Потым, у гады акупацыі Вільнюса панскай Польшчай, тут жылі і пачыналі сваю літаратурную дзейнасць беларускія пісьменнікі Максім Танк, Піліп Пестрак, Валянцін Таўлай, Міхась Машара, Ніна Тарас і іншыя. Некаторыя з іх

## Э. МЕЖЭЛАЙЦІС



# БАЛТ

Я—просты
балт...
...На беразе балтыйскім маю дах.
Ён пахне морам, янтаром і небам.
Гарыць пад ім прапрадзеда ачаг...
Цяпло яго аберагаць мне трэба.

Заходзіць сонца... Чырваніць зямлю,
Вячорны ветрык дрэвы працінае,
Дзіцячы тварык да грудзей тулю,
Нібы яго ад кулі засланяю.

(Нядаўна тут, ля гэтых дзюн прыморскіх
Зямля гарэла... Полымя шугала
І дуб з зямлі з карэннем вырывала...).
Але стаіць той дуб. Ён балт, ён моцны...

Вось мы ідзём...
ёсць сонца у крыві ў нас.
І з сонцам і пад сонцам мы жывём.
Зайздросцім птушцы, стройнай, як
Жыльвінас,
Што колерам—маланка,
воляй—гром.
Мы не прывыклі да маўклівай седні.
Плыве над дахамі салодкі родны дым.
І сонечны гаршчок на стол вясельны
Я абпаліў на ачагу сваім.

Мацней вайны, мацней самога голаду
Мая цяжкая шчырая рука...
Нектарам пахне, гэта пчолы золата
Збіраюць мне у травах сасняка.

І пахне рыбай... Пахне глебай роднаю
І хлебам родным, і яшчэ дзяжой.
Літоўскаю драўлянаю мадоннаю,
Як Эгле, маці распаліла ўжо
Агонь, які мне пяцікутна зззяе...
Высока ён над сажай ачага...
Кіпіць кацёл...
Дзіця маё гуляе...
Прыходзіць вечар...
І начы чарга...

...Я—
просты балт. На гэтых белых дзюнах
Сяджу з высокай марай у вачах
І ціха параўкоўваю у думах
Агонь прапрадзедаў і родны свой ачаг.

Пераклаў з літоўскай К. КАМЕЙША.

Эўгеніюс МАТУЗЯВІЧУС

# ДРУЖБЫ

падтрымлівалі цесную творчую сувязь з прагрэсіўнымі літоўскімі пісьменнікамі, якія жылі і працавалі ў Вільнюсе, — Ю. Кэкштасам, И. Каросасам, О. Міцютэ, А. Жукаўскасам і інш. На літоўскай, беларускай, польскай мовах выдаваліся альманахі, часопісы, у якіх супрацоўнічалі прагрэсіўныя літоўскія, беларускія, польскія пісьменнікі. Ішла барацьба супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, які праводзіўся белапольскімі ўладамі. Таму пад многімі вершамі, напісанымі ў тыя гады Максімам Танкам, П. Пестраком, В. Таўлаем, мы побач з датай знаходзім прыпіску: «Лукішская турма». Верхаводы панскай Польшчы хацелі зламаць баявы дух паэтаў. Але гэта ім не ўдалося. За кратамі Лукішак нараджаліся новыя, прызыўныя вершы...

Надзвычай блізка звязана з родным нашым Вільнюсам імя выдатнага беларускага паэта Максіма Танка, яго грамадская і літаратурная дзейнасць. Матывы Вільнюса глыбока ўвайшлі ў многія яго вершы, прасякнутыя вялікай сардэчнасцю і любоўю да гэтага старажытнага горада.

Прыязджаючы ў Вільнюс, паэт любіць цэлымі гадзінамі вандраваць па горадзе, пры месячным святле наведваць прадмесці і старыя вузкія вуліцы, дзе ён калісьці марыў пра рэвалюцыю, пра паэзію, пра першае каханне... Максім Танк гаворыць, што кожны раз вяртаецца ў Вільнюс нібы абноўленым, нібы зноў набыўшым юнацтва. Такім дарагім і светлым бывае горад юных дзён...



Мы, літоўскія пісьменнікі, заўсёды з пачуццём вялікай радасці ўспамінаем аб тых літаратурных сустрэчах, літаратурных вечарах, у якіх нам па той ці іншай прычыне давялося ўдзельнічаць на вашай гасціннай зямлі, гутарыць з пісьменнікамі, рабочымі, калгаснікамі, настаўнікамі, студэнтамі, школьнікамі вашай рэспублікі. Паездка ў Беларусь, творчыя кантакты з вашымі літаратарамі, сустрэчы з цудоўнымі, радаснымі людзьмі ў гарадах і сёлах заўсёды дастаўляюць нам многа незабыўных уражанняў. І кожны раз перад намі раскрываюцца ўсё новыя і новыя рысы працавітага, адважнага і таленавітага беларускага народа, якіх мы да гэтага часу, можа, дастаткова поўна і ярка не ўлавілі і не ўразумелі. Мы навочна пераканаліся і пераконваемся, у якіх велізарных маштабах расце прамысловасць Савецкай Беларусі, з якой любоўю і энтузіязмам будуецца новы Мінск. Шчыра радуемся поспехам беларускага калгаснага сяла, яго новым эканамічным дасягненням. Вельмі многа светлага і добрага бачым мы ў Беларусі, у яе жыцці і ў сэрцах яе людзей. І кожнаму з нас яшчэ даражэйшыя словы: сацыялізм, мір, праца, творчасць, дружба...

Мы рады, што літоўскіх і беларускіх пісьменнікаў аб'ядноўвае і цудоўны Нёман, і наша творчая праца, і тыя трывалыя масты братэрства, якія мы ўзвялі і ўзводзім сваімі сэрцамі, сваім розумам, глыбока разумеючы вялікі сэнс савецкага інтэрнацыяналізму і яго гістарычныя перспектывы.

Мы рады, што на кніжных паліцах літоўскіх чытачоў ляжыць ужо немалая бібліятэчка твораў беларускіх аўтараў у літоўскім перакладзе: анталогія беларускай прозы, дзве анталогіі паэзіі, празаічныя кнігі З. Бядулі, Я. Брыля, П. Броўкі, В. Быкава, М. Гарэцкага, І. Шамякіна, М. Танка; кнігі паэзіі Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка, М. Калачынскага, а таксама некалькі кніжак для дзяцей. Нямала новых твораў беларускіх празаікаў і паэтаў розных пакаленняў у апошні час апублікавана ў літоўскай перыёдыцы (у часопісах «Пяргале», «Нямунас», «Яўніма гратас», у газетах «Ціеса», «Літэратура ір мянас» і інш.).

Вялікую і карысную работу зрабіў гісторык беларускай літаратуры А. Мальдзіс, які напісаў даследаванне аб творчых узаемасувязях беларускіх і літоўскіх пісьменнікаў у савецкія гады. (Гэта работа надрукавана ў зборніку навуковых прац «Старонкі літаратурных сувязей», які выдадзены на беларускай мове ў Мінску ў 1970 г.). Даследаванне А. Мальдзіса раскрывае перад намі мноства цікавых фактаў і момантаў з гісторыі ўзаемаадносін нашых літаратур за працяглы перыяд. Побач з цэлым радам цікавых матэрыялаў у гэтай рабоце можна знайсці дакладныя бібліяграфічныя дадзеныя аб творах беларускіх пісьменнікаў, выпушчаных на літоўскай мове, і аб кнігах літоўскіх аўтараў, перакладзеных на беларускую (у іх ліку — такія выдатныя творы літоўскай літаратуры, як «Поры года» вялікага класіка К. Данелайціса, «Брацкая паэма» Э. Межэлайціса, раман у навелах Ю. Балтушыса «Праданыя гады», раман А. Венцлавы «Дзень нараджэння» і інш.).

...У гэту летнюю раніцу я зноў успамінаю пра многіх беларускіх пісьменнікаў, пра нашы задушэўныя гутаркі, пра нашы агульныя паездкі па Беларусі і па Літве...

Сёння мы адчуваем біццё сэрца айчыннай зямлі, дыханне ўсёй вялікай і шматнацыянальнай Савецкай краіны і патрыятычнае пачуццё дружбы народаў, з якім увесь савецкі народ сустракае 50-годдзе ўтварэння Саюза братніх рэспублік...

А на палях Беларусі збіраюць ураджай. Сінеюць удалечы лясы. Над азёрамі і рэкамі пад раніцу плыве белая смуга туману. У гарадах нястомна б'ецца сэрца заводаў і фабрык. Жыве і дыхае зямля беларуская, зямля нашых добрых суседзяў, якой мы заўсёды жадаем шчасця, міру, вялікіх працоўных і творчых поспехаў!



**НЕЗАБЫЎНА ЯРКІМ**, цудоўным відовішчам было рэспубліканскае свята народных ансамбляў, праведзенае нядаўна ў Вільнюсе і Каўнасе ў гонар 50-годдзя СССР. На свята прыбылі ансамблі з Расійскай Федэрацыі, Украіны, Беларусі, Эстоніі, Латвіі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і Польскай Народнай Рэспублікі.

Вуліцы і плошчы гарадоў пераліваліся колерамі нацыянальных касцюмаў, поўніліся песнямі, танцамі, радаснымі ўсмешкамі.

Годным прадстаўніком нашай рэспублікі быў ансамбль «Лідчанка». Яго выступленні прымаліся вельмі цёпла і сардэчна, нашым самадзейным артыстам удзельнікі свята скандавалі «Няхай жыве Беларусь!».

Вялікую цікавасць выклікалі самабытныя нумары, напрыклад, створаная І. Хворастам на фальклорным матэрыяле кругавая кадрыля. Гарачымі апладысментамі сустрэта была новая музычна-харэаграфічная кампазіцыя «Лідчанкі» «Карабейнікі» і літоўская народная песня «Цераз лес-лясочак».

А ў верасні зноў сустрэчы з літоўскімі сябрамі—«Лідчанка» выступіць у Кастрычніцкім раёне Вільнюса, раёне, з якім спаборнічае Ліда.

М. КОП,
дырэктар Гродзенскага абласнога Дома народнай творчасці.

Ромас САДАЎСКАС

# З АДНОЙ КРЫНІЦЫ

Неяк пагодлівым ліпеньскім днём ехалі мы з Друскінінкай у Гродна. Дарогі тут кіламетраў з сорак, ды і шаша добрая — словам, паўгадзіны язды на легкавушцы. Але спяшацца не варта...

На дзесятым кіламетры — пагранічны слуп, нібы нешта ад экзотыкі. І прычына для роздуму. Само слова «граніца» прымушае думаць аб размежаванні, раз'яднанні людзей і краёў. А тут наадварот — плакат: «Сардэчна вітаем» і — поціск рук. Слуп — сімвал таго, што тут канчаецца старонка літоўская і пачынаецца беларуская. І толькі сімвал. Бо райгардскія салаўі пяюць па адзін бок даліны, а іх пошчак чуцен лепей на другім, анемоны ўвесну квітнеюць на вашых лугах, а іх водар вецер даносіць да нас; літоўскія хлопцы з суседніх вёсак едуць за нявестамі на Беларусь, і адтуль да нас кіруюцца—за тым жа. Ды хіба раскажаш пра ўсё, што тут яднае людзей, птушак, дрэвы...

Возьмем тую ж райгардскую даліну, апетую ў карціне самага цудоўнага з літоўскіх мастакоў — М.-К. Чурлёніса. Вядома, нам хацелася гэты райскі куточак пакінуць некранутым, гэткім, якім ён адкрыўся погляду мастака восемдзесят год назад. І тады беларускія леснікі сказалі: «Тое, што дорага вам, дорага і нам, мы не будзем праводзіць аніякіх работ, якія змянілі б выгляд Райгарда». Больш таго, на сваім баку паўзбоч дарогі яны адкрылі цудоўную крынічку, і да яе цяпер кіруюцца ўсе літоўскія экскурсанты, якія вырашылі прайсці сцежкамі Чурлёніса. Прыпалі да яе і мы ў спякотны летні поўдзень.

А колькі праяў такой братняй блізкасці на працягу ўсёй граніцы паміж Беларуссю і Літвой! Не злічыць. Адны ў нас рэкі і песні, адзін лёс і адна праца... Нас яднаюць стагоддзі і геаграфія, барацьба і спадзяванні абодвух народаў. Словам, прычын для адзінства многа. Але самая галоўная — гэта пачуццё сям'і адзінай, тое, што мы жывём у саюзе народаў савецкіх, што ідзём па адным шляху да адной мэты.

Беларусь прайшла па гэтай дарозе больш паўстагоддзя, а наш край нядаўна адзначыў 32-ю гадавіну савецкай рэчаіснасці. Але хоць Літва і адна з малодшых сясцёр у сям'і савецкіх народаў, мы аднолькава з усімі багатыя і хлебам, і духам. Чаго няма ў нас, ёсць у вас, і наадварот. У вас самыя лепшыя трактары, а ў нас, калі верыць вынікам усесаюзных спаборніцтваў, выдатныя аратыя. У мінулым годзе мы сабралі з гектара ў сярэднім па 27 цэнтнераў збожжа. А сёлета і таго лепш — у некаторых мясцінах гектар дае па 60 цэнтнераў!

Мы рады вашым працоўным поспехам, а вы, я абсалютна ўпэўнены, неабыякавыя да нашых перамог — інакш і быць не можа, таму што ў нас адна Радзіма, адны засекі і адзін хлеб.

Нам ёсць чым ганарыцца.

Мы ганарымся, напрыклад, тым, што самую папулярную ў нас кнігу «Лісткі календара» напісаў беларускі пісьменнік Максім Танк, і тым, што кнігі нашых аўтараў не залежваюцца на паліцах вашых кнігарань. Нам прыемна, што вашы дзяўчаты, мяркуючы паводле лаўраў гімнастак, самыя грацыёзныя, гэтак жа прыемна, што нашы хлопцы — неблагія баксёры. Жыццё ў нас багатае, цікавае, і падобным творчым спаборніцтвам няма і не будзе канца.

Пажадаем жа, каб над нашымі дахамі было заўсёды бясхмарнае мірнае неба, а поспехаў вялікай сям'і нашай не зменшыць і не адняць нікому.

# А. БЯЛЯЎСКАС: «ТВАРАМ ДА САМЫХ ВОСТРЫХ, НАДЗЁННЫХ ПЫТАННЯЎ ЖЫЦЦЯ...»

## ГУТАРКА СА СТАРШЫНЁЙ ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ ЛІТВЫ

*У САВЕЦКІХ людзей ёсць добрая традыцыя: падводзіць вынікі, гаварыць аб дасягненнях напярэдадні вялікіх усенародных свят... Значныя поспехі ў нашай шматнацыянальнай савецкай літаратуры перад слаўным 50-годдзем утварэння СССР. Шырока адзначаючы гэтыя дасягненні савецкай літаратуры, сёння многа і, як здаецца, не без падстаў гавораць аб здабытках літоўскай прозы, літоўскага рамана...*

*Усё часцей у крытычных артыкулах, аглядах называюцца імёны таленавітых літоўскіх пісьменнікаў-празаікаў Й. Авіжуса, М. Слуцкіса, А. Бяляўскаса, В. Бубніса, Р. Кашаўскаса, Й. Мікелінскаса, Ю. Пажэры і іншых. Гавораць аб несумненным наватарстве гэтых вядомых пісьменнікаў, аб тым, што яны ўнеслі ў нацыянальную літоўскую прозу свежы струмень, што гэтая псіхалагічная проза (або проза так званага ўнутранага маналогу) узняла актуальныя філасофскія і маральныя праблемы сучаснасці. Было б вельмі пажадана, Альфонсас Пятровіч, каб вы падзяліліся думкамі аб развіцці прозы ў рэспубліцы, у прыватнасці, расказалі б аб набытках літоўскага рамана.*

БЯЛЯЎСКАС. Прызнацца, тэма, якую вы сфармулявалі сваім пытаннем, мяне заўсёды вельмі хвалюе... Сёння сапраўды мы можам з радасцю і гонарам гаварыць як аб істотных дасягненнях літоўскай мастацкай літаратуры, так і аб вялікіх поспехах нашай нацыянальнай культуры наогул за гады Савецкай улады ў Літве, дзе сёння ўсяляк заахвочваюцца творчыя сілы чалавека. З другога боку, наўрад ці былі б гэтыя поспехі такімі значнымі, калі б мы былі пазбаўлены магчымасці чэрпаць са скарбонкі культур савецкіх народаў, абменьвацца духоўнымі каштоўнасцямі... Кожны сапраўды таленавіты твор, перакладзены на іншыя мовы, становіцца агульным набыткам, уздзейнічае на ход ідэйна-эстэтычных пошукаў. Але вернемся да пытання аб сучасным літоўскім рамане.

Няправільна было б лічыць, нібыта літоўскі савецкі раман узнік на голай глебе... У нашай класічнай літаратуры былі трывалыя рэалістычныя і рамантычныя традыцыі. Першы літоўскі раман убачыў свет яшчэ ў 1902 годзе. Літоўская літаратура крытычнага рэалізму збірала сілы, вопыт, развівалася пад непасрэдным уздзеяннем ідэй марксізму-ленінізму, пад уплывам рэвалюцыйнай барацьбы працоўных. Плён гэтага развіцця асабліва стаў адчувальны к 1940 году. У нас з'явіліся творы, у цэнтры якіх стаяў станоўчы герой. І тут перш за ўсё варта назваць раман «Зямля-карміцелька» Пятраса Цвіркі. Гэты твор, па сутнасці, паклаў пачатак сацыялістычнаму рэалізму ў літоўскай літаратуры. І заўсёды, калі мы сёння гаворым аб высакароднай працы пісьменнікаў старэйшага пакалення, аб іх барацьбе за інтэрнацыянальную, гуманістычную, антыфашысцкую літаратуру, мы нязменна з пачуццём вялікай павагі і ўдзячнасці называем імя Пятраса Цвіркі...

У першыя пасляваенныя гады тэмпы рзавіцця нашай прозы крыху запаволіліся. Становішча ў тагачаснай літоўскай літаратуры было вельмі складаным. Ішла цяжкая барацьба за сацыялізм... Ад пісьменніка патрабавалася даць выразны адказ: ці гатовы ён паставіць свой талент на службу сацыялізму. І лепшыя прадстаўнікі літоўскай літаратуры зрабілі правільны выбар... Яны пішуць пра аднаўленне разбуранай акупантамі народнай гаспадаркі, пра калектывізацыю літоўскай вёскі, пра новыя адносіны паміж людзьмі. У 1948 годзе выходзіць з друку першы літоўскі савецкі раман Й. Давідайціса «Перад бурай», гісторыка-рэвалюцыйная тэма гучыць у раманах А. Гудайціса-Гузявічуса «Праўда каваля Ігнотаса» і «Браты». Радуе сваімі творамі Ю. Балтушыс, раман якога «Праданыя гады» карыстаецца папулярнасцю. Але выраслі тым часам і маладыя празаікі — Йонас Авіжус, Міколас Слуцкіс і іншыя. Гэтыя здольныя таленавітыя пісьменнікі з выразнай ідэйнай платформай працягваюць лепшыя традыцыі прагрэсіўнай літаратуры мінулага, памнажаюць вопыт сучаснай прозы, узбагачаюць яе вобразамі і ідэямі эпохі сацыялізму, і, па сутнасці справы, трымаюць сёння ў сваіх руках лёс літоўскага рамана. Але наш раман — разнастайны, у ім узаемадзейнічаюць самыя розныя стылявыя плыні. Тут, як гаворыцца, галоўны паказчык— таленавітасць пісьменніка, яго творчы пошук, які так цудоўна праяўляецца на ніве сацыялістычнага рэалізму. Побач з маладымі нястомна працуюць пісьменнікі старэйшага пакалення — Е. Сімайціце, Ю. Паўкшцяліс, Ю. Балтушыс... Іх вопыт, як ужо я падкрэсліваў, увабрала творчая моладзь, але яна і сама значна ўзбагаціла літоўскую прозу новымі элементамі.

*— Менавіта аб гэтым падрабязней, калі ласка... У прыватнасці, цікава было б пачуць вашу думку, Альфонсас Пятровіч, пра новы раман Йонаса Авіжуса «Згублены прытулак».*

БЯЛЯЎСКАС. Йонас Авіжус — аўтар вядомых раманаў «Вёска на ростанях» і «Шкляная гара». Ён заўсёды, як мне здаецца, цвёрда трымаецца залатога правіла: пісаць толькі аб тым, што добра ведаеш. Сын селяніна, выдатна знаёмы з псіхалогіяй сельскага працаўніка, урэшце, журналіст, на вачах якога ажыццяўлялася калектывізацыя ў Літве, ён змог эпічна асэнсаваць і глыбока і пераканаўча паказаць у рамане «Вёска на ростанях», як перабудоўвалася вёска, якія рэальныя цяжкасці стаялі на шляху рэвалюцыйных пераўтварэнняў у рэспубліцы. Вось чаму так хвалююць чытачоў яго кнігі.

Яшчэ большы поспех прыпаў на апошні раман Авіжуса «Згублены прытулак» («Час спусташэння сядзіб»). Поспех не выпадковы: ён быў падрыхтаваны і вопытам работы самога аўтара над папярэднімі раманамі, і, як мне здаецца, творчай практыкай іншых вядомых літоўскіх празаікаў, якія нямала зрабілі апошнім часам у галіне мастацкага асваення тэмы класавай барацьбы на вёсцы. Ды аб гэтым — крыху ніжэй.

Што ж характэрна для рамана Авіжуса? Перш за ўсё—гэта раман пра барацьбу ідэй, пакутлівы пошук ісціны. Пісьменнік ставіць такія агульныя для савецкай літаратуры тэмы, як чалавек і рэвалюцыя, зямля і народ, бліскуча вырашае іх на спецыфічным літоўскім матэрыяле — на паказе невялічкай вёскі Лаўксодзіс і гарадка Краштупенай у часы гітлераўскай акупацыі. У «Згубленым прытулку» раскрываецца жыццё народа на пэўным гістарычным рубяжы — надта складаным і адказным. Асноўная сюжэтная лінія, як памятаеце, — лёс настаўніка Гедымінаса Джугаса ў кругаверці гістарычных падзей, дарогай якіх ён праходзіць, марудна і пакутліва вызваляючыся ад ілюзій абстрактнага гуманізму, нацыяналістычных догмаў. Але я не буду падрабязна спыняцца на ідэйна-мастацкіх вартасцях твора, які справядліва ацэньваецца крытыкай як з'ява ўсесаюзнага значэння. Мне хочацца засяродзіць вашу ўвагу на адным істотным моманце ў творчасці пісьменніка.



А. Бяляўскас (злева) і Ю. Палецкіс.

Раней мы ведалі Йонаса Авіжуса як прыхільніка традыцыйнага рамана. Дастаткова нагадаць хоць бы раман «Шкляная гара». Але вось у апошнім творы, заслужана адзначаным Дзяржаўнай рэспубліканскай прэміяй, Авіжус не застаўся абыякавым да новага ў літоўскай раманістыцы, застаючыся верным ранейшай эпічнай манеры, ён звярнуўся да вопыту сучаснага псіхалагічнага рамана. І — не дарэмна. Як мы бачым, у «Згубленым прытулку» рысы эпічнай прозы вельмі арганічна спалучаюцца з лірычнай. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што пазіцыі прозы ўнутранага маналогу вельмі трывалыя.

*— Наколькі нам вядома, вы таксама з'яўляецеся адным з прадстаўнікоў так званай новай школы літоўскага рамана. Вашым раманам «Вуліца працы», «Цвітуць ружы пунсовыя», «Мы яшчэ сустрэнемся, Вільма», «Каўнаскі раман» у той ці іншай ступені ўласцівы рысы сучаснай літоўскай лірыка-псіхалагічнай прозы... Што, на ваш погляд, перш за ўсё вызначае гэты тып рамана?*

БЯЛЯЎСКАС. Нядаўна амаль на аналагічнае пытанне — аб пошуках новых форм рамана — мне даводзілася адказваць у часопісе «Дружба народов»... І я хачу зноў падкрэсліць. што форма —



Адноўлены старадаўні Тракай— адна з прыгажэйшых мясцін Літвы.

Фота А. БАРЫСАСА.

Вацыс РЭЙМЕРЫС

# ОДА ЎСЕМАГУТНЫМ РУКАМ



Песню я хацеў аддаць табе —
і ўбачыў
мільён рук.
Мілыя, дарагія,
заўсёды клопатныя,
яны падкідвалі цябе,
так падкідвае маці
сваё дзіця,
дзіця першай любові,
высока да сонца, да зор.
Святло зліло іх далоні—з тваімі —
з бліскучымі лісцікамі
парасткаў маладых
і з каркасамі вежаў вялікіх,
і былі рукі пяшчотныя і ласкавыя,
і былі рукі—дужыя і стальныя.
Ты вымольвала ў мяне песню,
іх далоні працягваючы да мяне.
О, як да іх прыпасці!
Можа, стаўшы хмелем,
абвіць іх —
юныя, гладкія, белыя
і месцамі парэзаныя
прыгожа!
Іх так многа. Неаглядны лес.
Мора ласкі. Горы мускулаў.
Бой і праца. Любоў і страсць.
Вось рука, пяшчоту якой
Адчуваюць скурай сваёй нават
кветкі,
яна пяшчотна прымушае
зрабіць свой першы жыццёвы
крок.
Вось рука, жорсткая і грубая,
але яна ва ўсе вякі,
ва ўсіх краінах
нясе плён сваёй працы
да сонца.
Так, самыя лепшыя ў свеце,
пасля рук маці—
рукі працаўніка!
Я схіляюся перад імі,—
непрыгожымі, жылістымі,
чорнымі ад металу,
ад зямлі,—
перад спрацаванымі далонямі,
бруднымі ад аўтагена, аліфы,
далонямі ў грудках мазалёў,
у мерыдыянах маршчын,
нібы яны—два паўшар'і.
Хто бачыў іх
у іскрах расплаўленага чыгуну,
спавітых стальнымі стружкамі,
нібы серпанцінам;
хто ведае,

Эдвардас ПРАНЦКУНАС

# МЫ ПРАЦУЕМ



І. Пяткевічус. У. І. Ленін у Вільнюсе.



В. Чэрняўскайтэ. З цыкла «Народныя мсціўцы».

БЕЛАРУСАМ, нашым суседзям, сябрам, братам, мне здаецца, усебакова вядомы шляхі развіцця Савецкай Літвы ў галіне выяўленчага мастацтва, бо і ў мінулым, і сёння беларусы і літоўцы ўмелі і ўмеюць вучыцца адзін у аднаго творчым пошукам.

У 1907 годзе адбылася першая выстаўка работ літоўскіх мастакоў, адным з арганізатараў і ўдзельнікаў якой быў славуты кампазітар і мастак М. Чурлёніс. Цэнтрам мастацкага жыцця Літвы ў 20-я—30-я гады была заснаваная ў 1922 годзе Каўнаская мастацкая школа. Асноўны кірунак яе дзейнасці быў рэалістычны, хаця ў гады буржуазнага ладу ў літоўскім мастацтве праяўляліся і фармалістычныя з'явы (асабліва ў жывапісе); часткова гэта тлумачыцца і тым, што ў тую пару нямала літоўскіх мастакоў вучылася на Захадзе — у Парыжы і іншых гарадах.

Каўнаская мастацкая школа выхоўвала таленавітых майстроў, многія з якіх і па гэты дзень уносяць плённы ўклад у развіццё літоўскага савецкага мастацтва. Гэта народныя мастакі СССР І. Кузьмінскіс і В. Юркунас, народныя мастакі Літоўскай ССР В. Мацкявічус, Н. Пятруліс, В. Палайма, П. Александравічус, А. Кучас, І. Кедайніс, А. Гудайціс, Л. Строліс, І. Суркявічус і інш.

Трэба сказаць, што паступова ўсё больш цяжкую ношу творчай і арганізацыйнай дзейнасці на свае плечы бяруць прадстаўнікі пакалення мастакоў, якое ўзмужнела ў пасляваенныя гады. У рэспубліцы і за яе межамі шырока вядома творчасць такіх жывапісцаў, як А. Савіцкас, В. Гэчас, І. Шважас, графікі С. Красаўскас, А. Макунайтэ, Р. Гібавічус, А. Скіруцітэ, Б. і В. Сцепанавічусы, С. і В. Валюсы, скульптары Г. Іакубоніс, К. Багданас, вітражысты А. Стошкус, К. Маркунас, тэкстыльшчык І. Бальчыконіс, керамікі І. Адамоніс, А. Лічкутэ, плакатысты І. Ґалкус, В. Каўшыніс і многія- многія іншыя. У нашай рэспубліцы больш як паўтысячы членаў Саюза мастакоў.

Нас радуе ўзровень, якога дасягнула наша графіка, асабліва мастацтва кніжнай ілюстрацыі, культура кніжнага афармлення (за гэтыя дасягненні многія з нашых графікаў узнагароджаны дыпламамі і прызамі саюзных і зарубежных выставак).

Наш скульптар Гедзімінас Іакубоніс удастоены звання лаўрэата Ленінскай прэміі за стварэнне цяпер вядомага ва ўсім свеце мемарыяльнага ансамбля ў спаленай фашыстамі вёсцы Пірчупіс.

Ці трэба напамінаць аб славе літоўскага вітражу. У яго стварэнні выкарыстоўваецца новая тэхналогія (тоўстае рэльефнае шкло і да т. п.). Творы літоўскіх вітражыстаў часта можна сустрэць у Маскве, ва Ульянаўску і ў іншых гарадах краіны.

За апошнія гады відавочныя дасягненні ў галіне мастацкага тэкстылю (асабліва ў мастацтве габелена), у кераміцы. Дарэчы, у мінулым годзе ў Вільнюсе праводзіўся міжнародны сімпозіум па кераміцы і была арганізавана Усесаюзная выстаўка твораў гэтага старажытнейшага мастацтва.

Вядома, ў развіцці творчасці любога народа бываюць некаторыя хібы, а часам і няўдачы. Так, на мой погляд, крыху зніжае рост нашага мастацтва, перашкаджае яму больш актыўна ўрывацца ў жыццё захапленне асобных мастакоў фармальным бокам творчасці. Канечне, усім вядома, што мастацтва — выяўленне адзінства зместу і формы, і менавіта арганічным адзінствам гэтых кампанентаў моцнае сапраўднае савецкае мастацтва. На жаль, нашы жывапісцы, асабліва падкрэсліваючы колерны, каларыстычны пачатак, нярэдка як бы парушаюць арганіку ўзаемадзеяння зместу і формы. Яны недастаткова звяртаюць увагі на такія элементы карціны, як кампазіцыя, малюнак, нарэшце — на рэалістычнае рашэнне фігуры чалавека. У жывапісных палотнах вельмі адчуваюцца тэндэнцыі дэкаратыўнасці, якія часам **станковую** карціну набліжаюць ледзь ці не да габелена, да фрэскі...

Мы не без падстаў ганарымся, што вытокі нашага прафесійнага мастацтва абапіраюцца на невычарпальныя скарбы даўнейшага народнага мастацтва (драўляную скульптуру, разьбу па дрэве, арнаментыку народных тканін і да т. п.). Але нас трывожыць, што наша моладзь як бы адыходзіць ад гэтых вытокаў. Напрыклад — у графіцы ўсё часцей сустракаюцца цяжка ўспрымальныя псеўдафіласофскія вобразы. Дэкаратыўнасць становіцца надакучлівай. Арнаментыка абарочваецца сухой рацыянальнасцю. Кераміка як быццам і зусім адмаўляецца ад утылітарнай функцыі — яна, праўда, становіцца прыгожым дэкаратыўным акцэнтам, які нядрэнна дапаўняе сучасны інтэр'ер. Але, на мой погляд, зусім ігнараваць бытавое прызначэнне керамікі — няправільна.



І. Мацконіс. Пчалавод Шымас.



В. Гэчас. Мастацтва, падзеі, людзі.

# ПА-СУСЕДСТВУ

## ДУМКІ ПРА СЁННЯШНЯЕ ЛІТОЎСКАЕ ВЫЯЎЛЕНЧАЕ МАСТАЦТВА

Магчыма, я тут крыху згусціў фарбы, але ж добрым сябрам і ў будні, і ў святы неабходна гаварыць праўду...

У Вільнюсе толькі што закрылася вялікая рэспубліканская выстаўка твораў маладых мастакоў. Каля 160 аўтараў паказалі прыблізна паўтысячы работ. Экспазіцыю гэтую ў нас шырока абмяркоўвалі. Карціна нашага мастацтва будзе больш поўнай, калі хоць коратка спынімся на праблемах гэтай выстаўкі, тым больш, што яны, мне здаецца, у пэўнай ступені актуальныя і для маладога пакалення мастакоў Савецкай Беларусі.

Перш за ўсё трэба сказаць, што пры Саюзе мастакоў Літоўскай ССР параўнальна нядаўна ўтворана секцыя маладых мастакоў, якая ўжо нямала папрацавала. Пастаянна паляпшаюцца творчыя і бытавыя ўмовы маладых, для іх арганізуюцца лагеры, разам са старэйшымі калегамі іх пасылаюць у дамы творчасці, ім дзюць творчыя заказы.

Зразумела, камісія па рабоце з маладымі, як і сама секцыя, магла б шукаць больш разнастайныя формы работы, яе дзейнасць магла б быць больш актыўнай. Трэба, каб у яе мерапрыемствах больш актыўна ўдзельнічалі аўтарытэтныя мастакі старэйшага пакалення. Нас трывожыць, што часам маладыя перспектыўныя людзі, якія добра сябе зарэкамендавалі ў мастацкім інстытуце, скончыўшы яго, адыходзяць ад творчага жыцця. Творчыя сувязі паміж маладымі і інстытутам не павінны парывацца. Неабходна часцей наладжваць выстаўкі творчасці маладых (можа, і не такога маштабу, як апошняя), бо выстаўкі — гэта школа ідэйнай і мастацкай сталасці.

На ўспомненай рэспубліканскай выстаўцы вылучаліся жывапіс, тэкстыль, кераміка. Графікі было малавата, сціпла выглядала скульптура. Работы на выстаўку адбіралі, кіруючыся высокімі крытэрыямі. З другога боку, нядрэнна б увесці практыку, пры якой абмяркоўваліся б работы, якія не трапілі на выстаўкі. Магчыма, абмеркаванне гэта трэба было б рабіць на розных секцыях, арганізуючы невялікія выстаўкі, запрашаючы старэйшых калег, мастацтвазнаўцаў.

Жывапіс і на гэты раз заняў вядучае месца ў экспазіцыі. Многія з маладых схільны да сур'ёзнага роздуму. У іх палотнах, натуральна, менш драматызму, уласцівага старэйшаму пакаленню літоўскіх жывапісцаў. У экспазіцыі былі работы з выяўленымі адносінамі аўтара да рэчаіснасці. Былі палотны, пазбаўленыя такіх адносін. Безумоўна, больш важная першая творчая тэндэнцыя, гэта значыць фарміраванне індывідуальнасці пры выпрацоўцы актыўных адносін да рэчаіснасці. На жаль, нярэдка наглядаецца і непатрэбнае смакаванне фактурных пошукаў, і недасканаласць малюнка. Вузкае кола тэматыкі работ. Мала запамінальных кампазіцый.

Мала работ паказалі маладыя скульптары. Ці не таму, што многія прымалі ўдзел у падрыхтоўцы буйных манументальных работ да выстаўкі прыбалтыйскай скульптуры ў Рызе? Сёння скульптары выкарыстоўваюць разнастайныя матэрыялы. Праўда, менш пачалі выкарыстоўваць дрэва, не заўсёды ўдаецца маладым скульптарам раскрываць магчымасці і ўласцівасці матэрыялаў, якія ўжываюцца. Напрыклад, некаторыя задавальняюцца простай апрацоўкай граніту, не спрабуючы яго шліфаваць. Больш дэкаратыўнымі сталі партрэтныя работы, яны неканкрэтныя, без адрасата, без глыбокай характарыстыкі, анемічныя. Вельмі мала ўвагі ўдзяляецца зместу.

Добра маладыя папрацавалі ў галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, унёсшы значны ўклад, напрыклад, у развіццё тэкстылю. Моладзь ідзе ў першых радах спецыялістаў па мастацкім шкле, метале, скуры. Праўда, сустракаюцца тэхналагічна нядбайна выкананыя работы, некаторае нізкапаклонства перад «масавым» густам. Але, увогуле, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва моладзі цікавае.

Усё шырэй аб сабе заяўляюць спецыялісты прамысловай эстэтыкі, дызайнеры. На гэтай выстаўцы яны ўпершыню выступілі разам з прадстаўнікамі «чыстых» мастацтваў, што было даволі незвычайна. Іх экспанаты — праекты сродкаў вытворчасці, тавары спажывання, работы па візуальнай інфармацыі— залежаць ад характару заказу, індывідуальнасць тут можа праявіцца менш. Некаторыя экспанаты (скажам, тэлевізары) бліжэй да тэхнікі. Напэўна, трэба было б падумаць, ці варта ў будучым экспанаваць работы дызайнераў на такіх выстаўках. У творчасці нашых маладых графікаў выразныя намаганні адчуць унутраны пульс сучаснасці. Работам гэтай выстаўкі таксама было ўласціва не канкрэтнае адлюстраванне жыцця, а своеасаблівае яе адухаўленне, яе насычэнне ўласнымі перажываннямі. Адсюль — арыгінальнасць стылю, адмаўленне ад мастацкай «літаральнасці», вялікая ўвага да формы. Але калі форма становіцца самапанавальнай, твор траціць уздзеяннне на гледача. У складаным творчым працэсе вызначальным фактарам з'яўляецца ідэйная задума. Шкада, што бедна прадстаўлен цяпер у творчасці маладых плакат, які ў нас мае добрую школу.

Як паказала творчая справаздача моладзі, яна ўмее працаваць, мысліць, не пазбягае складанай праблематыкі. І ўсё ж на выстаўцы не хапала свежасці, не хапала работ, міма якіх раўнадушна не пройдзеш, не хапала больш глыбокага роздуму над творчымі задумамі.

Сёння асабліва важна выхоўваць пачуццё грамадзянскасці, адказнасці мастака, аб'ядноўваць творчую практыку з разуменнем грамадзянскага абавязку члена савецкага грамадства. Недастатковае ўсведамленне грамадскай функцыі мастацтва нараджае дробныя, камерныя работы, якія не вызначаюцца глыбінёй думкі і палётам.

Як маладыя, так і старэйшыя, аб'ядноўваюцца ў адзінай творчай сям'і мастакоў рэспублікі, і апошнім зусім не ўсё роўна, як фарміруецца моладзь — будучыня нашага мастацтва.

У нашай рэспубліцы шмат увагі ўдзяляецца маладому пакаленню мастакоў, якое штогод папаўняецца вялікім атрадам дыпломнікаў. Вось і ў гэтым годзе мастацкі інстытут скончыла 90 мастакоў розных спецыяльнасцяў. Дарэчы, і ў Савецкай Беларусі працуе не адзін мастак, які скончыў наш інстытут. У гэтым нічога дзіўнага — бо мы бліжэйшыя суседзі, нас аб'ядноўваюць блізкія арганізацыйныя і творчыя праблемы. Мы з добрай зайздрасцю канстатуем, як у апошні час вырас ваш жывапіс, як развіваецца мастацкае шкло, якія грандыёзныя працы здзейснілі вашы скульптары і архітэктары, якія стварылі манументальныя мемарыяльныя ансамблі ў Хатыні, Брэсце, стварылі Курган Славы.

Мы жадаем вам вялікіх творчых поспехаў, дарагія беларускія сябры!



Р. Казлаўскас. Чырвонаармеец.



С. Джаўкштас. Гібель актывіста.



І. Чэпоніс. Рыбакі Балтыкі.

Альгірдас ПОЦЮС

# ДВОЕ МАЛАДЫХ І ТРОЕ СТАРЫХ

АПАВЯДАННЕ

СПАЧАТКУ быў толькі адзін малады і трое старых. Малады сядзеў за пісьмовым сталом, круціў у пальцах сіні алоўак і, міргаючы адным вокам, слухаў, што гаварыў яму глухі млынар Друкцяніс. Млынар быў пажылы мужчына, ствараючы якога бог не пашкадаваў гліны. Вялізны нос, вялізныя адтапыраныя вушы, шырокія, апушчаныя плечы, а рукі — пудовыя счарнелыя матыкі. Размаўляць з ім было цяжка, бо прыходзілася крычаць на ўсю глотку або прыхінацца да самага левага вуха.

— Ты прадстаўнік улады, дык клапаціся!— густым, як з бочкі, голасам гаварыў Друкцяніс.— Адабралі млын, а дагледзець не ўмееце. Хутка будзеце ручныя жорны шукаць.

Малады мужчына, які пасля нядаўняга сходу заняў крэсла старшыні апілінкі *, перагнуўся цераз стол і, нахіліўшыся да вуха млынара, выкрыкнуў:

— Заўтра прыйду праверу! Будзь спок, млын не разваліцца.

— У мяне ён сто гадоў прастаяў бы, а цяпер— куды не тыцнеш пальцам — дзірка,— з болем у голасе бубніў Друкцяніс.

У гэты момант у гаворку ўступіў другі стары, які сядзеў воддаль ад усіх, каля сцяны пры дзвярах. Гэта быў бацька маладога старшыні апілінкі. Заглянуў ён сюды без усякай справы, так, паглядзець на сына, якому даручылі такую адказную пасаду. Руткус — такое было прозвішча старога — ганарыўся, што парастак ягонай сям'і стаў самым важным чалавекам у апілінцы.

— Лухту вярзеш, сусед, — сказаў Руткус голасна.— Які млын пакінуў, такі і стаіць. Няўжо за год згніў?!

Відаць, Друкцяніс сёе-тое пачуў, бо глянуў у ягоны бок. Не ўлавіўшы сэнсу, але па вачах Руткуса адчуўшы, што той сказаў нешта яму непрыемнае, млынар яшчэ больш насупіўся.

— Бач, значыцца заступнікі беднаты і пакрыўджаных, — іранізаваў ён. — Калі ўсіх жабракамі зробяць, будзе сапраўдная ўлада беднякоў. Адразу відаць, што да гэтага ідзем.

— Хто еў пірагі, можа і чорнага хлебца пажаваць,— умяшаўся трэці стары, шчуплы, з махнатымі вусамі чалавечак. Гэта быў пісьманосец, які прынёс у апілінку пачак папераў і сеў паслухаць, пра што гавораць людзі.

Вось у гэты момант расчыніліся дзверы і ў пакой уваліўся малады мужчына ў зялёнай кашулі. У руках у яго была вінтоўка. Сінімі, спалоханымі вачыма ён прабег па тварах старых і затрымаўся на маладым Руткусе, які сядзеў за пісьмовым сталом. Цяпер у пакоі былі ўжо ўсе: двое маладых і трое старых.

Тое, што мужчына ў зялёнай кашулі трымаў вінтоўку, нікога не здзівіла, бо ў тыя пасляваенныя гады большасць службоўцаў, якія прыязджалі або прыходзілі з горада, мелі зброю. Нават яго спалоханыя вочы і збялелы твар не выклікалі вялікага падазрэння: не дзіва, што, едучы праз лес, чалавек мог напалохацца.

— Хто тут старшыня апілінкі?— запытаўся ён лагодна і ветліва, не спускаючы вачэй з маладога Руткуса.

— Што вам трэба? — спакойна спытаў Руткус, седзячы за сталом. Старыя маўчалі і глядзелі на чалавека ў зялёнай кашулі, яшчэ не разумеючы, чаго ён хоча.

— Мне патрэбны новы старшыня апілінкі!

— Я старшыня,— сказаў Руткус.

Мужчына ўскінуў вінтоўку.

— За адданую службу камуністам ты асуджаны на смерць!

Яшчэ ніхто не паспеў сарыентавацца, што тут робіцца, як грымнуў стрэл. Увесь пакой, напоўніўся пахам пораху. У вушах двух старых стаяў звон, а трэці болей па паху, чым па грукаце, зразумеў, што вінтоўка стрэліла.

Стары Руткус, ачуняўшы ад аслупянення, глянуў на стол і ўбачыў, як апусцілася галава сына, а на белую паперу, якая ляжала ў яго пад рукамі, пачало ліцца чырвонае чарніла крыві.

— Забойца! — ускрыкнуў нечалавечым голасам стары і, падскочыўшы, учапіўся за вінтоўку маладога чалавека ў зялёнай кашулі. Той ужо хацеў бегчы, бо адной рукой ухапіўся за клямку дзвярэй. Рыўком пацягнутыя дзверы адчыніліся, але мужчына застаўся ў пакоі. Прыйшлося змагацца за вінтоўку, якую Руткус вырываў з рук. Стары вар'ят! Адкуль гэтулькі сілы ў старэчыя гады! Сваімі жылістымі, засіверанымі рукамі, як жалезнымі абцугамі, ён учапіўся за вінтоўку і вырываў яе з такой злосцю, што з маладога ўмомант выбіў пот. Сцяўшы зубы, сапучы насамі, енчачы і стогнучы, абодва круціліся па пакоі, як быццам хто прывязаў іх адзін да аднаго. Стары раз спатыкнуўся, зачапіўшыся за крэсла, але зноў падхапіўся. Уеўшыся вачыма ў скрыўлены твар забойцы, у белыя зубы, што свяціліся, аголеныя да самых ружовых дзёснаў, Руткус змагаўся з усіх сваіх сіл. Ён не думаў пра сваё жыццё, галоўнай мэтай ягонага жыцця стала помста за такую недарэчную і жудасную смерць сына. Зразумела, ён быў шмат старэйшы за таго, у зялёнай кашулі, можа і сілы меў меней, аднак па ўпартасці мала хто мог з ім раўняцца. Калі ўвесь век з ранку да вечара не выпускаеш з рук плуга, вілаў або яшчэ якой гаспадарчай прылады, хочаш не хочаш, мускулы робяцца, нібы цвёрдая шляя, якую нават сабака не перакусіць.

У нейкі момант малады адчуў, што сілы ў яго больш, чым у старога, і трэба толькі яшчэ больш напяцца, — стары падасца. Вось Руткус спатыкнуўся, ногі яго заплятаюцца, грудзі сіпяць, як кавальскія мяхі. Яшчэ хвілінка і...

Аднак мужчына ў зялёнай кашулі не змог сабраць гэтых рашучых апошніх сіл. Яго бянтэжылі позіркі тых другіх старых, якія, быццам змярцвелыя, сядзелі па кутках. Таўкане каторы па макаўцы, і канец барацьбы вядомы. Альбо могуць з'явіцца новыя людзі, тым больш — з горада. Гэта няўпэўненасць паралізавала сілы маладога, страх скаваў яго.

Пісьманосец спачатку хацеў шугануць праз дзверы, але падумаў, што на вуліцы напэўна дзе-небудзь хаваюцца сябрукі таго, у зялёнай кашулі, і заб'юць, што зайца. Лепей застацца ў куце і чакаць, што будзе далей. Старога Руткуса шкада. Добры ён быў чалавек, незласлівы, сяброўскі. Трэба б яму дапамагчы. Калі ўдвух учапіцца, той, у зялёнай кашулі, не вытрымае. Але што будзе потым? Ноччу заявяцца лясныя і перастраляюць усіх, як курапатак. Перад вачыма ясна паўсталі жонка і дзеці, замардаваныя ў запырсканай крывёю хаце. Не, ён не можа ўмешвацца. Калі бог паможа, Руткус і сам справіцца.

Млынар Друкцяніс застаўся сядзець, толькі са сваім крэслам пасунуўся бліжэй да сцяны. На паядынак ён глядзеў спакойна і без боязі, быццам тут двое хлопцаў дзеля смеху ўздумалі падужацца. Старому Руткусу ён ніколі не дапаможа, бо не любіць тых, якія на баку чырвоных. Калі ўсе такія, як ён, згінуць—можа Друкцяніс зноў будзе гаспадаром млына. Дапамагаць мужчыну ў зялёнай кашулі таксама не варта. Там, з вугла, напусціўшы ў порткі, лупіць вочы пісьманосец. Або яшчэ хто з вёскі можа забрысці. Данясуць уладам, тады млын прыйдзецца шукаць недзе каля Енісея. Спяшацца няма чаго, пасяджу і пагляджу, чым усё гэта скончыцца.

Дзверы былі адчынены. Праз іх на панадворку віднелася трава, залітая праменнямі летняга сонца, вугал паламанага плота. Мужчыну ў зялёнай кашулі здавалася, што на вуліцы змагацца было б лягчэй, ён вырваў бы вінтоўку з рук старога і пусціўся б без аглядкі ў лес. Вяртацца без зброі было сорамна перад усім атрадам. Хто мог падумаць, што гэты трухлявы стары кінецца на яго. Гэтага не прадбачыў і Пяркунас, пасылаючы навічка на першае сур'ёзнае заданне. Маўляў, гэта будзе толькі лёгкая прагулка.

Малады, учапіўшыся за вінтоўку, пачаў цягнуць Руткуса праз дзверы. Той адразу быў упіраўся, але потым падаўся. Яму таксама здавалася, што на вуліцы будзе лягчэй. На чорнай зямельцы селянін заўсёды чуецца мацнейшым. Цягаючыся па прыступках ганка, абодва зваліліся на сцежку і там схапіліся з новай сілай. Не выпускаючы з рук вінтоўкі, якая намёртва з'яднала абодвух, яны таўкліся локцямі, лупілі адзін аднаго каленямі. Мужчыну ў зялёнай кашулі змагацца было цяжка, бо ён не адчуваў той злосці, якая ахапіла старога. Ён ніколі не сустракаў гэтага чалавека. Нават не помніў, каб бачыў дзе гэты зарослы сівым шчаціннем твар. Малады ў сэрцы ўжо шкадаваў, што ўзганарыўся і выхваляўся перад атрадам, нібыта адзін можа пайсці ў вёску і расправіцца з новым старшынёй апілінкі. Праўда, тады ён быў нападпітку, Пяркунас мог бы прапусціць ягонае пустаслоўе міма вушэй. Мала што могуць збрахаць захмялелыя мужыкі. Але Пяркунас наўмысна ўхапіўся за яго словы. «Гэта будзе табе выпрабаваннем і хрышчэннем», — сказаў ён, праводзячы з бункера.

Дужацца са старым — вось якое выпрабаванне. Дзесьці па-суседству забрахаў сабака. Быццам электрычны ток, па ўсім целе прайшоў страх. Урэшце мужчына ў зялёнай кашулі не вытрымаў, выпусціў вінтоўку, вырваўся ад старога, кінуўся бегчы. Ногі былі быццам падбітыя, падгіналіся ў каленях, чапляліся за кожную грудку. Хутчэй бы толькі лес!

А стары Руткус, яшчэ не зусім зразумеўшы, што перамог, цяжка падняўся з зямлі. Кружылася галава, у грудзях шалёна білася зморанае сэрца. Затуманенымі вачыма ён сачыў за мужчынам у зялёнай кашулі, які з уцягнутай у плечы галавой шпарка імчаў цераз поле. Стары ўзняў вінтоўку і праз прорезь прыцэлу глянуў на спіну ўцекача. Націснуў курок. Мужчына ўзмахнуў рукамі, прабег яшчэ некалькі крокаў і ніцма зваліўся на траву. Нейкі час Руткус глядзеў на яго, раскрыжаванага каля самага квітнеючага бульбянога поля. Усё яшчэ чакаў, можа ўстане. Потым кінуў вінтоўку, а сам бяссільна апусціўся ля плота, уціснуў галаву між каленяў і заплакаў.

Праз адчыненыя дзверы апілінкі нясмела выпаўзлі пісьманосец і млынар. Яны спыніліся каля старога Руткуса і моўчкі глядзелі, як трасецца яго сівая галава, уздрыгваюць плечы, мокрыя ад поту. Маладых не было, засталіся толькі яны—трое старых.

Пераклала з літоўскай Яніна КІСЯЛЕВА.

Сельсавет.



ЛЮДЗІ - ПТУШКІ... *Інакш не назавеш танцоўшчыкаў з Дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі Літоўскай ССР «Летува». Слава гэтага ансамбля, якім кіруе В. Бартусявічус, даўно перасягнула межы нашай краіны. Імя яго стала сімвалам творчай дасканаласці, вышэйшага майстэрства.*

Фота З. ПУЦІЛАВАСА.



Сучасны матыў.
Фота А. БАРЫСАСА.

## Альфонсас МАЛДОНІС



### СТАРАЯ ПЕСНЯ

Нас вучыць паспявалі,
Пакрысе гадавалі,
Імем добрым адмалку
Кожнага называлі.

Стань аратым у полі,
Суцяшальнікам долі,
Будзеш смелым салдатам —
Нам не жыць у няволі.

Як матуля спявала,
Шчасця сыну жадала,
Над зямлёй праляцела
Дзевяць куль, як навала.

Мёртвых мы пахавалі,
А жывых — шанавалі.

Мы тваімі, Радзіма,
Салдатамі сталі!

●

Будзь шчодрым, сэрца, памажы паэту
Пазбавіцца штодзённай мітусні,
Дай выбіцца на шлях планеты
Да свету, што калісьці сніў.

Будзь працавітым. Адпачнеш употай,
І не шкадуй гаспадара — як раб
Прыгнечаны ён дробязной турботай,
Ты не даруй за тое, што аслаб.

Што ж, прыйдзе дзень — цябе убачаць людзі
Такім, як бачыла яна,
Якую ён любіў, а больш любіць — не будзе...
І ў гэтым — не яго віна.

Імклівы час ілюзіі разгоніць.
Канец страфы. І вечнае святло.
Ну, а пакуль ляжыш не на далоні,
Распраў жа, сэрца, гордае крыло!

Пераклад В. ВЯРБЫ.

## Йонас ВІЛЬДЖУНАС

# ЧОРТАВА БАБУЛЯ

*Гэта — урывак з успамінаў былога разведчыка пра сумесную барацьбу літоўскіх і беларускіх партызан у гады Вялікай Айчыннай.*

АДПРАВІЎШЫ Макара Караблікава ў Вільнюс, я неадкладна заняўся арганізацыяй пастаяннай кур'ерскай сувязі з падпольшчыкамі ў сталіцы Літвы.

Трэба было знайсці чалавека, які, не выклікаючы падазрэнняў акупантаў, мог бы перапраўляць у Вільнюс неабходную зброю і матэрыялы, а з Вільнюса дастаўляць атрыманую там інфармацыю. Знайсці такога чалавека было нялёгка. Акупацыйныя ўлады і карныя патрулі падазравалі ўсякага, хто б там ні быў — мужчына або жанчына, дарослы або дзіця. Усюды ім бачыліся партызаны. А выкарыстоўваць для сувязі байцоў атрада было і нязручна, і небяспечна: патрэбен быў цывільны, спрытны чалавек, які мог бы выбрацца ў дарогу ў любы час.

Мы доўга раіліся, перагледзелі і адкінулі мноства кандыдатур і нарэшце звярнулі ўвагу на бабулю аднаго з байцоў нашай групы — Костаса Чарняўскага — Насту Сімановіч з хутара Неслуч, што недалёка ад возера Нарач. Больш за ўсё мяне непакоіў яе ўзрост — ёй было каля сямідзесяці пяці гадоў. Але ўсе запэўнівалі мяне, што Сімановіч яшчэ вельмі рухавая — зусім не па сваіх гадах! Пра спрытнасць яе расказвалі сапраўды казкі. Маўляў, лягчэй чорта падмануць, чым бабку Насту. «Сапраўдная чортава бабуля!» — смяяліся ўсе, хто толькі ведаў яе. Я захацеў на свае вочы ўбачыць славутую «чортаву бабулю». Узяўшы ў праважатыя Кастуся, я адправіўся ў Неслуч. Бабуля была як бабуля: маленькая, худзенькая, быццам высахлая, з дробнымі рысамі твару і востранькім носікам, — але выглядала яна куды маладзей сваіх год. Магчыма, таму, што наслухаўся пра яе столькі цікавага, я і сапраўды ўяўляў яе вядзьмаркай: колькі займальных і страшных казак расказвалі мне пра іх у маленстве... А бабуля быццам плыла па хаце, і вось ужо на стале дымілася засмажаная на сале ячня, аднекуль з'явілася бутэлька самагону.

— Частуйцеся, мілыя госці, — запрасіла яна нас, выціраючы аб палатняны фартух маленькія, сухенькія з распухлымі суставамі рукі, і сама апусцілася на лаўку. — Як там у вас мой вісус, Косця мой, — ці слухаецца? Ці не просіць дубца? — яна звярталася да мяне, відаць, папярэджаная Косцем, хто я такі.

— У нас дубцы не ў пашане, мы неслухаў у мурашнік саджаем, — падтрымаў я жарт.

Яна весела засмяялася, паказаўшы рад белых, зусім здаровых зубоў. Смех быў такі вясёлы і нестарэчы, што адразу падумалася — гэтая жанчына яшчэ можа прынесці шмат карысці справе.

За чэставаннем асцярожна завёў гаворку аб тым, чаго б мы ад яе хацелі. Яна слухала ўважліва, зрэдку ківала, але ні разу не перапыніла мяне.

— Як, возьмецеся? — паставіў я рубам пытанне.

— Што ж, — падумаўшы адказала яна. — Альбо грудзі ў крыжах, альбо галава ў кустах — трэба справу рабіць.

Мы дамовіліся. Я растлумачыў ёй задачу, даў адрасы, па якіх ёй належала звяртацца ў Вільнюсе, пароль. Дамовіліся, калі яна выберацца ў дарогу. Яна цікавілася кожнай дробяззю, уедліва распытвала.

— А гэта вам на дарожныя расходы. — Я паклаў перад ёй кучку остмарак.

Бабуля Настасся ўзяла іх, старанна пералічыла.

— Дзвесце, — сказала яна і вярнула грошы.

— Ну што вы, — збянтэжыўся я. — У дарозе ўсё можа здарыцца, магчыма, каму і тыцнуць прыйдзецца.

— Ведаю, — перапыніла мяне старая. — Толькі ты мне сапраўдных дай. З гэтымі я толькі бяду на сваю галаву наклічу.

Маркі былі самыя сапраўдныя. Я ведаў гэта абсалютна дакладна, таму што яшчэ да таго, як мяне закінулі ў тыл праціўніка, беларускія партызаны прыслалі ў цэнтр некалькі мяшкоў марак, якія ім дасталіся ў час адной удалай аперацыі. Але ж не станеш тлумачыць бабцы, як яны трапілі да мяне. Я даваў слова гонару.

— Ты мне хоць сто разоў кляніся — я, магчыма, і паверу, ды што я скажу немцам, калі яны мяне спытаюць, адкуль узяла маркі, — упарцілася яна.

Я не разумеў яе...

— А ты, галубок, хіба не зацікавіўся б?.. Вось глядзі! — яна паклала на стол банкнот у дваццаць марак. — Усе новенькія, аж хрумсцяць, ды яшчэ і нумары засаб.

Чорт падаткнуў! Грошы і сапраўды новыя, яшчэ не былі ва ўжытку. Што і казаць, вострае вока ў бабкі!

Мне было ніякавата. Я нават адчуў віну перад ёй, бо мог падвесці жанчыну пад бяду. Развітваючыся, я абяцаў перадаць праз Косцю іншыя грошы, і ўвесь час прасіў прабачэння.

— А ты не прасі прабачэння. Вам што — атрымалі грошы і даяце, а я галавой у пятлю пнуся. Так што трэба глядзець, каб пятля захліснулася не вельмі хутка.

На базу я вярнуўся спакойны. Кур'ер, ды яшчэ які, быў знойдзены.

Бабуля Наста, верная памочніца, за год, што мы кватаравалі каля возера Нарач, не раз даказвала, што ёй і сапраўды сам чорт не страшны. Спачатку яна аб'явіла, што інакш, чым з падводай, у Вільнюс не адправіцца. У нас у атрадзе было некалькі коней, аднаго мы пераправілі бабцы Насце, паклапаціліся і аб брычцы. Але яна катэгарычна адмовілася прыняць нашага каня. Ён, бачыш, вайсковай вывучкі, да немцаў не прывык, пачне яшчэ кілацца — касцей нават не збярэш. Не, ёй патрэбны просты сялянскі конь і воз просты сялянскі. Давялося пашукаць і гэта.

І ні разу не здарылася, каб старая Наста вярнулася з паўдарогі. А вазіла яна ў Вільнюс усё: батарэйкі і акумулятары для радыёперадатчыкаў, міны — магнітныя і замаруджаныя, узрыўчатку, зброю, шыфраваныя данясенні, кнігі і безліч усялякіх іншых рэчаў. Ледзь не кожнае яе падарожжа было цяжкім, поўным усялякіх нечаканасцяў, і мы, то затаіўшы дыханне, то літаральна паміраючы ад смеху, выслухоўвалі справаздачы «чортавай бабулі», на якія яна не скупілася.

Едучы з Неслучы ў Вільнюс, трэба было пераязджаць праз мост, які ахоўваўся патрулём. Дзякуючы расказам бабулі Насты гэты масток стаў ледзь ці не легендарным: не было выпадку, каб яна праехала праз яго без прыгод. Аднойчы, убачыўшы, што немцы распачалі каля моста павальную праверку, яна павярнула ўбок, зусім не жадаючы, каб гітлераўцы або паліцэйскія знайшлі ў яе возе магнітныя міны. Броду побач не было, і, перабіраючыся цераз раку, конь ступіў у яму, напалохаўся і нечакана так ірвануў наперад, што бабка не ўтрымалася, вывалілася ў ваду. Яна сяк-так выкараскалася на бераг, але конь за гэты час паспеў адысці даволі далёка. Бабка Наста пачала ўпрошваць сялян, якія паблізу касілі сена, каб яны дапамаглі злавіць ёй каня, абяцаючы за гэта ўсяго на свеце: солі, перцу, імбіру, папярос, дражджэй, фарбаў, мыльнага каменю і бог яго ведае чаго яшчэ.

— А адкуль жа такое багацце? — дзівавалася людзі.

— Ты што, асёл, не бачыш, што я спекулянтка, — прыкінулася раззлаванай наша сувязная. — Хіба непадобная?

Усе пасмяяліся з рассердаванай «спекулянткі», але каня ёй злавілі і былі шчодра ўзнагароджаны.

Трэба шчыра прызнацца, што бабуля Наста аказалася практычнай жанчынай: сабе і суседзям заўсёды прывозіла з Вільнюса нешта, чаго ў тыя часы людзям больш за ўсё не хапала, раздавала яна гэты набытак зусім не дарма, умела пастаяць за свой тавар. Мы пра гэта ведалі, але глядзелі скрозь пальцы. Тым больш, што слава пра яе, як пра спекулянтку, апраўдвала яе частыя паездкі ў Вільнюс.

Другім разам конь, хоць і не быў партызанскі, спалохаўся на тым злашчасным мосце ваеннага грузавіка, зламаў аглоблю і ледзь не забіў самую гаспадыню. А яна мусіла таго дня дабрацца да Вільнюса. Бабка пакінула воз, спыніла грузавік з нямецкімі салдатамі і ўпрасіла падвезці. А каб салдаты не вельмі цікавіліся кошыкам, у якім зверху для выгляду ляжалі яйкі, яна знарок называла іх сыночкамі, кожнага ўзнагародзіла васількамі і няспынна лаяла праклятую клячу, якая ледзь не пабіла ёй усе яйкі, неабходныя хворай дачцы ў Вільнюсе. Забаўляючы салдат сваёй размовай, яна дабралася да Вільнюса і даставіла неабходныя радыстам батарэйкі.

Аднойчы конь — і зноў быццам знарок — на самай сярэдзіне моста распрогся і перагарадзіў дарогу. А тут — адкуль ні вазьміся — нямецкая аўтамашына... Бабка проста-такі рукі цалавала салдатам, і сала ім совала, і маркі — толькі памажыце ёй хутчэй наладзіць вупраж або хоць бы скаціць воз з моста. Аматараў ладзіць вупраж не знайшлося, але воз бабцы з моста скацілі і паставілі на абочыне.

Калі першы конь ад частых паездак у Вільнюс знясілеў, бабка Наста паддалася на ўгаворы і ўзяла добрага дужага каня з нашага атрада. Аднойчы ёй давялося везці ўзрыўчатку, магнітныя міны і міны з гадзіннікавым заводам. Даведаўшыся, што яна вярнулася з Вільнюса, я ў той жа дзень зайшоў да яе. Старая сустрэла халаднавата, не так, як заўсёды, і пачала лаяцца, што я яе ледзь не загубіў. Крыху супакоіўшыся, расказала, што палавіну дарогі праехала даволі ўдала, але, пад'язджаючы да мястэчка Міхайлішкі, сустрэлася з машынай. Конь, убачыўшы яе, стаў на дыбкі, кінуўся з дарогі, і выкуліў гаспадыню разам з возам і ўсім, што было на возе, у роў, а сам — збег. Нямецкія салдаты, якія вылезлі з машыны, пачалі здзекавацца — куды, маўляў, кабетка, едзеш, што вязеш і ці не трэба дапамагчы. Наста ледзьве не плачучы, пачала хлусіць, што едзе ў суседнюю вёску да сваячкі, якая цяжка хварэе і яе трэба праведаць. Немцы пасмяяліся і паехалі. Ледзьве выбраўшыся з рова, бабка са сваім каштоўным клункам пайшла ў суседнюю вёску прасіць, каб дапамаглі злавіць каня. Злавіць яго не ўдалося, і тады бабка папрасілася на начлег. Ёй, як і прынята ў вёсцы, прапанавалі пераспаць на печы. Наста пацягнула за сабой на печ і клунак. А печ была даволі моцна напалена. Калі бабка ўспацела, яна ўспомніла, што ад гарачыні міны могуць узарвацца. Захваляваласярукі, але што рабіць — не ведала, бо апусціць вузел з печы ёй здавалася таксама небяспечным: гаспадары дома з простай цікаўнасці маглі паглядзець, што ў ім такое. Так да раніцы і не заплюшчыла вачэй, усё чакала, што вось-вось узляціць у паветра разам з мінамі.

Раніцай, ледзь развіднела, яна скацілася з печы, наняла вазака і хутчэй даставіла свой небяспечны груз у Вільнюс.

Немагчыма пералічыць усе прыгоды і небяспеку, якія зведала Наста Сімановіч. Самае галоўнае, што ўсе яны канчаліся ўдала. А мы за яе нарадавацца не маглі.

Наста Сімановіч пасля вайны жыла ў Беларусі, у мястэчку Даўгінава, і ахвотна расказвала праўнукам аб прыгодах свайго «юнацтва», а ў яе куфэрку, загорнуты ў хустку, ляжаў ордэн Айчыннай вайны I ступені і медалі, атрыманыя за баявыя заслугі. Яна памерла вясной 1967 года, дажыўшы амаль да ста гадоў

# КАЛІ ЗЫХОДЗІЦЬ З ПРАКТЫКІ...

М. ШМАТКОЎ,
наместнік начальніка Упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкома

*РАЗДУМВАЮЧЫ НАД АРТЫКУЛАМ «ЯК ВУЧЫЦЬ КУЛЬТРАБОТНІКА?»*

КАМСАМОЛКА Тамара Аўсяннікава пасля заканчэння сярэдняй школы прыйшла на работу загадчыкам Замшэнскага сельскага клуба Лёзненскага раёна. Яна адразу знайшла сябе. Перш за ўсё звярнулася да інтэлігенцыі. Адзін з настаўнікаў прыйшоў у клуб з баянам, за ім з акардэонам — аграном. Пад іх акампанемент цяпер звіняць галасы мясцовых артыстаў у клубе і суседніх вёсках. Нядаўна праведзены вечар «У чым прыгажосць чалавека?», аформлены вусны часопіс: «Мая родная Беларусь».

Зразумела, гэта не прыйшло само сабой. Многае далі семінары пры аддзеле культуры. Тамара запісвае ў свой сшытак новыя рэкамендацыі, асноўныя метадычныя парады, робіць выпіскі з метадычных часопісаў, раіцца са старэйшымі актывістамі.

А вось прыклад, інакшы. У 1971 годзе загадчыкам Бачэйкаўскага клуба Бешанковіцкага раёна была прызначана Раіса Філіповіч, якая скончыла культасветвучылішча. Але справы не палепшыліся, наадварот, распаўся струнны гурток, радзей сталі канцэрты.

Чаму малады культработнік, па сутнасці аматар, спраўляецца з работай, а спецыяліст — не? Можа яго дрэнна вучылі?

19 мая г. г. у «Літаратуры і мастацтве» быў апублікаваны артыкул «Як вучыць культработніка?» Яго аўтар—дырэктар метадычнага кабінета культасветработы Міністэрства культуры БССР А. Сурыновіч. Пытанне, пастаўленае ў загалоўку, сапраўды хвалюе і культработнікаў, і органы культуры.

На Віцебшчыне 968 клубных работнікаў, і толькі 170 маюць спецыяльную адукацыю. У астатніх агульная сярэдняя адукацыя. Пры гэтым каля 500 чалавек працуюць на клубнай рабоце да трох гадоў, з іх каля 200—менш як адзін год. Іх, як кажуць, трэба вучыць і вучыць.

А. Сурыновіч заяўляе: «Пытанні тэорыі, методыкі клубнай справы раённаму аддзелу культуры не пад сілу. Тым больш, што і ўключаць іх у планы работы семінараў... няма патрэбы». Мне думаецца, пайсці па гэтым шляху— значыць загадзя пазбавіць маладых работнікаў клубаў, дамоў культуры і бібліятэк магчымасцяў вывучаць на месцы асновы клубнай справы.

Мы лічым, што ў рэкамендацыі Міністэрства культуры БССР для раённых семінараў зусім правільна ўключаны многія тэарэтычныя тэмы, сярод іх: «Арганізацыя работы клуба інтэрнацыянальнай дружбы», «Методыка правядзення групавых і індывідуальных заняткаў», «Аб павышэнні ідэйна-мастацкага ўзроўню рэпертуару мастацкай самадзейнасці», «Методыка арганізацыі і правядзення вечароў адпачынку працоўных» і іншыя.

Хто павінен праводзіць заняткі?

Запрасіць на чытанне лекцый і для кансультацый педагогаў з культасветвучылішча раённаму аддзелу культуры амаль немагчыма. Значыць, трэба праводзіць заняткі сваімі сіламі. Жыццё падказвае, што пытанні культурна-асветнай работы неабходна вывучаць на месцы. Ці рэальна гэта?

Так, рэальна. Па-першае, за апошнія гады значна ўмацаваны кадрамі метадычныя раённыя ўстановы. Па-другое, на сяле таксама з'явіліся клубныя работнікі са спецыяльнай адукацыяй. У метадычных кабінетах дамоў культуры, бібліятэк назапашаны значны вопыт, які дазваляе даваць пэўныя рэкамендацыі. Ёсць і кнігі па клубнай справе.

Канечне, мы рады метадыстам з Мінска. Часцей за іншых да нас прыязджаюць метадысты Рэспубліканскага Дома народнай творчасці. Удзельнікі абласных курсаў і семінараў удзячныя ім. Мне незразумелы выпад, які зрабіў аўтар артыкула ў адрас метадыста Васіля Максімавіча Астапука. Ён прыязджае на семінары не «смяшыць», а вучыць культработнікаў добрай выдумцы. Зараз без масавіка-забаўніка не ўдаецца зрабіць вясёлым і займальным вечар адпачынку.

Што датычыць сістэмы вывучэння метадычных і тэарэтычных пытанняў на раённых семінарах, дык у рэспубліцы дастаткова сіл, каб гэту сістэму прапанаваць аддзелам культуры.

Як правіла, раённыя аддзелы культуры ўважліва і падрабязна вывучаюць работу клубаў і бібліятэк, ведаюць пра ўсе іх цяжкасці. Гэта дазваляе аддзелам культуры вырашаць на семінарах як практычныя, так і тэарэтычныя пытанні арганізацыі культурна-асветнай работы. Магчыма, я несправядлівы, але ў артыкуле А. Сурыновіча праявіўся нейкі недавер да раённых аддзелаў культуры.

У артыкуле выказваецца прапанова: сённяшнія семінары назваць школамі перадавога вопыту, школамі практычнага навучання. Ці варта змяняць гэту агульнапрынятую назву? Пры правільнай арганізацыі раённы семінар і з'яўляецца школай перадавога вопыту, якая спалучае тэорыю з практыкай. Семінар ніякай новай адукацыі не дае. Узнікае шэраг пытанняў: што за школа, рэгулярнасць работы яе, які тэрмін навучання, што ўручаць пасля яе сканчэння і г. д. Відаць, перамена назвы не прывядзе да змен зместу работы семінараў.

Мы прымаем крытыку, выказаную ў адрас аддзелаў культуры, у прыватнасці Талачынскага, за залішняе драбленне і вялікую колькасць пытанняў, якія вывучаюцца на семінарах. Але часам загадчык аддзела вымушаны ісці на гэта: для малавопытных работнікаў канкрэтызацыя прыносіць не шкоду, а карысць. Упраўленне культуры са свайго боку зараз вывучае практыку раённых семінараў.

Наша практыка пацвярджае, што вывучэнне тэарэтычных пытанняў і методыкі правядзення мерапрыемстваў садзейнічае росту культработніка, паляпшэнню дзейнасці клубаў, дамоў культуры і бібліятэк. У Віцебскім раёне на семінарах па некаторых пытаннях навічкам дапамагаюць больш вопытныя загадчыкі клубаў. Так, напрыклад, на адным з семінараў заняткі па тэме «Методыка арганізацыі і правядзення вечароў адпачынку» правялі дырэктар Кіраўскага дома культуры Аляксандр Нахімовіч і дырэктар Суражскага дома культуры Раман Раеўскі. На занятках яны расказалі пра састаўныя элементы вечара, дапамаглі абгрунтаваць іх. У гэтай кансультацыі было расказана, як працаваць з пасіўнымі наведвальнікамі.

Метадыст Верхнядзвінскага раённага дома культуры Ада Майсеянок распрацавала шэраг пытанняў: як выбраць тэму вечара, як пачаць яго, якое месца адводзіцца розным састаўным часткам вечара; як выкарыстаць мясцовы матэрыял, як арганізаваць мастацкую самадзейнасць.

У Аршанскім раёне метадычную кансультацыю па тэме «Вечар адпачынку — адна з форм эстэтычнага выхавання» правялі практыканты Магілёўскага культасветвучылішча. Актыўна праводзяць кансультацыі работнікі раённых бібліятэк.

За апошнія гады на раённых семінарах распачаліся больш рэгулярныя заняткі па вывучэнні тэх-

М. ТЫЧЫНА

З ВЯСКОВАГА ДЗЁННІКА

# РУДНЯНСКІЯ НАВАСЕЛЛІ

БРАНІСЛАЎ Канстанцінавіч Чаркас адносіцца да той катэгорыі кіраўнікоў, якіх асабліва паважаюць журналісты: ён шчыры, просты, гаманкі. З такімі людзьмі лёгка наладзіць той душэўны кантакт, пасля якога застаюцца запоўнены запісамі блакнот і радасць сустрэчы з цікавым субяседнікам. Яму за трыццаць. Невысокага росту, крыху паўнаваты для сваіх гадоў. Ён сам за рулём «Масквіча». Запрашае агледзець пасевы, сенажныя збудаванні, новабудоўлі. Адразу за вёскай Руднае — цэнтральнай сядзібай гаспадаркі — пачынаюцца палеткі азімых і яравых збожжавых. Пасевы чыстыя, густыя. «Калі не пашкодзіць суша, то па трыццаць пяць цэнтнераў на круг збожжавых возьмем», — заўважае старшыня, вырульваючы машыну на вузенькую палявую «сцежку», якая і прывяла нас у Калодзезнае. У гады нямецка-фашысцкай акупацыі вёска гэтая падзяліла лёс Хатыні. На бугры пад густымі таполямі — гіпсавы салдат з аўтаматам на грудзях, са схіленай у смутку галавой. Абапал яго масіўнай фігуры—бетонныя пліты з выбітымі на іх прозвішчамі тых 287 чалавек, што згарэлі зажыва ў агні 9 лютага 1943 года ад рук карнікаў. «Пасля таго, як быў пастаўлены помнік, — гаворыць Браніслаў Канстанцінавіч, — адшукалі прозвішчы яшчэ васемнаццаці ахвяр. Будзем ставіць яшчэ адну стэлу».

Ад той, перадваеннай вёскі новая адрозніваецца не толькі дыхтоўнымі дамамі, — яна напалавіну меншая: у жывых пасля трагедыі засталося чалавек пятнаццаць.

Яшчэ ў райкоме партыі мне гаварылі: «Чаркас добра вядзе будаўніцтва сваімі сіламі, у раёне яму бадай і роўных няма». Ведаў я, што Браніслаў Канстанцінавіч, ветурач па прафесіі, прыняў чатыры гады назад калгас «Праца» не з лёгкім сэрцам: у гаспадарцы не было ніводнага тыпавога жывёлагадоўчага памяшкання — толькі «развалюхі» першых пасляваенных гадоў, узведзеныя па беднасці на скорую руку. Ды і даўгоў прыняў тысяч пад трыста. З такім набыткам старшыня не мог і думаць аб капітальным будаўніцтве падрадным, а, значыць, дарагакаштуючым спосабам. Але і чакаць, пакуль гаспадарка набярэцца моцы, пазбавіцца ад даўгоў, ён не мог, таму што нельга эфектыўна развіваць жывёлагадоўлю, гэтую важную ў прыбытках калгаса галіну гаспадаркі, без дабротных памяшканняў.

— Рашыў я параіцца з праўленцамі, — успамінае Браніслаў Канстанцінавіч.—Сабраў іх і гавару, што рэсурсы маем беднаватыя, міжкалгасбуд пакуль што нам не па кішэні. Ёсць у мяне думка весці работы сваімі сіламі і сродкамі. Мне запярэчылі. Маўляў, пра якое будаўніцтва сваімі сіламі можа ісці гамонка, калі ў калгасе сто сорак працаздольных мужчын, з іх дзевяноста—механізатары і шафёры. Вось тут і ўспомнілі пра ганцавіцкіх цесляроў, якія і да мяне нярэдка наведвалі Руднае, зарэкамендаваўшы сябе з лепшага боку. З прапановамі пагадзіліся. Назначылі мы Івана Більдзюкевіча, нашага цесляра, брыгадзірам будаўнічай брыгады — гэта адзіны прадстаўнік ад калгаса, усе астатнія — запрошаныя да нас з іншых вёсак. Афармляем іх па дагаворы. Скажу прама: у асноўным гэта добрыя майстры, якія ведаюць цану заробленаму рублю. Не якія-небудзь «калымшчыкі». Працуюць хлопцы не з дзевяці раніцы і да шасці вечара, як міжкалгасбудаўцы, а з цямна і да цямна. Зімой прыходзяць часцяком: «Таварыш старшыня, як бы асвятленне на аб'екце паставіць, можна было б і ночы прыхапіць». Зарабляюць яны рублёў па 160—180. Пры такім энтузіязме і будаўнік з падраднай арганізацыі зарабіў бы не менш. Адным словам, у першы год майго знаходжання на пасадзе старшыні мы нанялі такіх цесляроў чалавек пад восемдзесят. У большасці з іх ёсць сем'і, прытым вялікія. У іх калгасе зямлі ворнай мала, механізатары ўпраўляюцца апрацаваць яе і без ручной працы. А вёскі шматлюдныя, мужчынскіх рук хапае, не тое, што ў нас. Вось і едуць мужчыны ў заробкі, а на сенакос і жніво вяртаюцца. На зіму — зноў да нас. Мы іх размяшчаем па кватэрах, за што гаспадыні налічваем адзін выхад за пяць дзён знаходжання кватаранта ў доме. Пры разліках за год для хлебароба кожны лішні выхад мае значэнне, таму ніякіх непаразуменняў з уладкаваннем будаўнікоў па кватэрах не ўзнікае. Мы ім адпускаем па сходнай цане мяса, малако. Людзі задаволены, працуюць з душой, якасць работ — выдатная.

— За тры гады, — працягвае Браніслаў Канстанцінавіч, — сваімі сіламі мы пераабсталявалі кароўнік на сто дваццаць галоў з поўнай механізацыяй, узвялі два валоўнікі на шэсцьсот галоў таксама з механізацыяй працаёмкіх працэсаў, рэканструявалі свінарнік — адкормачнік на шэсцьсот галоў, пабудавалі склад мінеральных угнаенняў, пункт штучнага асемянення жывёлы. Адным словам, выканалі такі аб'ём работ, які міжкалгасбуду з яго тэмпамі хапіла б на добрых шэсць гадоў. У той жа час затраты на будаўніцтва ў тры—чатыры разы меншыя, чым пры падрадным спосабе будаўніцтва. Спашлюся на такі прыклад. Валоўнік на чатырыста галоў абышоўся калгасу ў 28 тысяч рублёў. Пры падрадным спосабе будаўніцтва нам давялося б выкласці ўсе сто тысяч. А якасць работ ніколькі не горшая.

Адначасова калгас сваімі сіламі будуе жытло і аб'екты культурна-бытавога прызначэння. За тры гады здалі восем кватэр для спецыялістаў сельскай гаспадаркі і прыезджых хлебаробаў, дзіцячы сад-яслі на цэнтральнай сядзібе калгаса, магазін, лазню.

І гэта, заўважце, пры існуючым дэфіцыце будаўнічых матэрыялаў. Што ж, выходзіць, старшыня крадзе іх ці дастае «нячыстым» спосабам? Нічога падобнага. Вельмі многае залежыць ад дзелавітасці, той прадпрымальнасці, без якой сёння няма кіраўніка гаспадаркі.

Даведаліся ў калгасе, што драўляныя жылыя дамы ў тых раёнах Мінска, дзе вядзецца новая забудова, падлягаюць зносу і іх можна купіць па сходнай цане. Едуць, дамаўляюцца. Потым накіроўваюць аўтамашыны, перавозяць, адбіраюць лепшы матэрыял і будуюць па-новаму.

Браніслаў Канстанцінавіч паказаў мне двухкватэрны дом, які каштаваў калгасу каля чатырох тысяч рублёў, уключаючы і будаўніцтва. Яшчэ адзін, чатырохкватэрны дом (старшыня гаворыць, што ключы ад яго раздасць дэмабілізаваным воінам, якія пажадаюць застацца ў вёсцы) заселяць у канцы лета. На высокім падмурку, з вялікімі вокнамі, пакоямі на 28 квадратных метраў (для маладажонаў — у самы раз) і кухняй, са склепам і знадворнымі забудовамі дом «глядзіцца» з усіх бакоў.

— І колькі ён будзе каштаваць вам? — пацікавіўся я.

— Шэсць тысяч рублёў.

Не раз даводзілася мне чуць скаргі старшынь калгасаў на моладзь, якая кідае бацькоўскі дом і кіруецца на горад. Маўляў, і чаго ёй толькі цяпер не хапае: заробак нават у паляводчай брыгадзе нішто, рублёў 60—70 у месяц, а калі дзяўчына пойдзе ў даяркі ці свінаркі, то будзе мець 150—200 у месяц. І клубы ўжо не рэдкасць у вёсцы, і паветра чыстае, і г. д. І вельмі часта на пытанне, а ці будуе калгас жыллё для маладых хлебаробаў, у тым ліку і тых, хто вяртаецца са службы з адным чамаданчыкам ці кайстрай, чуеш адказ: «А чаму я павінен будаваць яму жыллё? У яго ёсць бацькі, вось няхай і дапамагаюць». І забываюць, што ў сённяшняй вёсцы дзеці ўсё радзей згаджаюцца жыць пад

нічных сродкаў прапаганды. Выступаюць вопытныя кінамеханікі, настаўнікі, мясцовыя мастакі, вучаць культработнікаў карыстанню апаратамі.

У некаторых раёнах праводзяцца спецыяльныя метадычныя семінары для работнікаў раённага цэнтра і сельскіх дамоў культуры. У Докшыцкім раённым аддзеле культуры працуе такі семінар, у якім заняткі вядуцца штомесяц. Тэмы: аналіз і агляд работы клубаў, бібліятэк, метадычныя рэкамендацыі перыядычных часопісаў, арганізацыя дапамогі клубам і інш.

Культасветвучылішчы пакуль не могуць забяспечыць патрэб раёнаў, калгасаў і саўгасаў у кадрах культработнікаў. Аддзелы культуры падбіраюць іх у асноўным за кошт выпускнікоў сярэдняй школы, для якіх і праводзяцца практыкумы пры раённых дамах культуры, раённых бібліятэках, а таксама ў сельскіх установах культуры. Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкома распрацавала спецыяльную праграму практыкума для навічкоў, разлічаную на два тыдні. Нашы практыкумы знаёмяць з асноўнымі правіламі работы культустаноў, прычым ужо пасля прызначэння работніка на пасаду. На маю думку, праводзіць такія практыкумы да прызначэння работніка немэтазгодна. Зразумела, мы імкнемся знайсці схільных, перспектыўных дзесяцікласнікаў.

Важнае месца мы адводзім апорнапаказальным клубам і бібліятэкам на сяле. Навічку бліжэй абстаноўка сельскага клуба, чым раённага дома культуры. Тут яму лепш знаёміцца з умовамі будучай працы.

Жыццё нарадзіла галіновыя «спецыялізаваныя» апорныя клубы. Думаецца, што супраць іх мы пакуль не маем сур'ёзных пярэчанняў. У адным клубе, доме культуры склаліся пэўныя запатрабаванні насельніцтва. У другім больш-менш вопытны культработнік. У трэцім праяўляюць дастатковую актыўнасць спецыялісты сельскай гаспадаркі. Значыць, недзе лепшыя ўмовы для прапаганды сельскагаспадарчых ведаў, у іншым — атэістычнай прапаганды. У асобных калгасах і саўгасах мала былых воінаў, партызан, значыць, нейкія элементы вечароў і сустрэч адпадаюць.

Жыццё пацвердзіць або абвергне неабходнасць такіх паказальных клубаў. Але вопыт работы іх паказвае, што яны дапамагаюць маладым культасветработнікам.

Яшчэ адно немалаважнае пытанне. У вёсцы, па сутнасці, няма мастацкіх кіраўнікоў, іх на грамадскіх асновах замяняюць клубныя работнікі. Прычым, калі культработнік іграе на баяне, дык гэта лічыцца самай лепшай яго якасцю. Большасць клубных работнікаў пакуль што не ўмее кіраваць мастацкімі гурткамі. Таму мы настойліва вучым іх валодаць якім-небудзь музычным інструментам.

Ці ёсць магчымасць вучыць гэтаму сельскага культработніка, на месцы, у раёнах? Так, ёсць. У кожным раёне працуе адна, а ў асобных — і дзве дзіцячыя музычныя школы. З кожным годам усё больш выпускнікоў культасветвучылішчаў, якія валодаюць тым або іншым жанрам самадзейнага мастацтва. Нам думаецца, што такі шлях навучання замацоўвае культработніка за сваёй прафесіяй, рыхтуе яго не толькі да работы, а часта і да паступлення на завочнае ці стацыянарнае аддзяленне культасветвучылішча або інстытута культуры. Зразумела, культработнік у першую чаргу арганізатар, распарадчык. Але арганізатараў можна знайсці і на сяле — многа працуе інтэлігенцыі, прыбываюць спецыялісты, якія закончылі факультэты грамадскіх прафесій вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Таму на аднадзённых нарадах, пасля вывучэння тэорыі, тры-чатыры гадзіны культработнікі вывучаюць новы рэпертуар, вучацца іграць.

Замяніць раённыя семінары культасветработнікаў абласныя курсы павышэння кваліфікацыі пакуль што не змогуць, бо не здолеюць ахапіць усіх сельскіх культработнікаў. Раённыя семінары будуць і надалей заставацца неабходнай формай вучобы культработніка.

---

бацькоўскім дахам, а імкнуцца быць незалежнымі.

Расказанае аб вопыце будаўніцтва ў калгасе «Праца» не заклік да адмаўлення ад падраднага метаду, які мае істотныя перавагі над так званым гаспадарчым, таму што дае магчымасць весці работы па навейшых праектах з больш трывалых матэрыялаў. Са 196 аб'ектаў гаспадарчага і культурна-бытавога прызначэння, якія ўзводзяцца зараз на Капыльшчыне, пераважная большасць знаходзіцца ў планах падрадных і генпадрадных будаўнічых арганізацый — «Міжкалгасбуда», ПМК-84 і г. д. Аднак, мяркуючы па дадзеных, якія прыводзіліся на нядаўнім пленуме райкома партыі, дзе ішла размова аб задачах партыйных арганізацый па далейшым паляпшэнні вытворчага, жыллёвага і культурна-бытавога будаўніцтва ў раёне, план уводу аб'ектаў (з іх трэба здаць сёлета аж 41) знаходзіцца пад пагрозай зрыву. Асабліва марудна ўзводзяцца жыллё, лазні, клубы. У гэтых адносінах вопыт калгаса «Праца», дзе амаль усе аб'екты ўзводзяцца сваімі сіламі, заслугоўвае павагі. Ён, гэты вопыт, не можа быць панацэяй ад усіх будаўнічых хібаў у вёсцы, аднак скідваць яго з рахунку пакуль што рана. Ужо той факт, што ў раёне гаспадарчым метадам узводзіцца каля паўсотні розных аб'ектаў, гаворыць сам за сябе. Вядома, той старшыня, які рашыў дзейнічаць самастойна, не спадзеючыся на літасць міжкалгасбудаў (у той жа «Працы» кароўнік міжкалгасбудаўцы ўзводзяць другі год, а канца работам не бачна), бярэ на сябе цяжкую ношку забеспячэнца, нават калі ў яго ёсць і не менш увішны намеснік, бо многія пытанні, звязаныя з набыццём будматэрыялаў, можа вырашыць толькі сам ён. Таму, калі ў нас аб гэтым зайшла з Браніславам Канстанцінавічам гамонка, ён, папляскаўшы далонню па загарэлай шыі, сказаў не без іроніі: «Вось дзе ў мяне ляжаць гэтыя матэрыялы». У першую чаргу — шыфер, цэмент, жалеза. Затое, калі яны ўжо дастаўлены ў гаспадарку, за будаўнікамі прыпынку няма — яны за паўгода, максімум за год узводзяць вытворчыя жывёлагадоўчыя памяшканні, эканомячы калгасу дзесяткі тысяч рублёў. Я ўпэўнены, што праз некалькі гадоў, трывала стаўшы на ногі, «Праца» пачне будаваць і капітальныя, па навейшых праектах, фермы, жылыя дамы. Тыя ж, што былі ўзведзены паскораным метадам, таксама не пойдуць на злом: у гаспадарцы ім заўсёды знойдзецца прымяненне.

А якая акупляемасць гэтых параўнаўча невялікіх, выдаткаў? Калі тры гады таму «Праца» замыкала амаль усе раённыя зводкі, то летась тут ужо мелі 1109 тысяч рублёў грашовага даходу — у тры разы больш, чым у 1968 годзе, у тым ліку чыстага прыбытку — 365 тысяч. За той жа час вытворчасць мяса (яно і з'яўляецца асноўнай крыніцай прыбыткаў) вырасла з 87 да 145 цэнтнераў на сто гектараў сельгасугоддзяў, з гэтым паказчыкам калгас заняў летась другое месца ў раёне. Паспяхова развіваецца грамадская жывёлагадоўля і сёлета, хоць у гаспадарцы і былі некаторыя перапады з продажам мяса дзяржаве.

...Калі мы вярталіся з палеткаў, старшыня зазначыў, што сёлета яны закончаць рэканструкцыю жывёлагадоўчых ферм і возьмуцца за будаўніцтва брыгадных клубаў, новых жылых дамоў, калгаснага музея.

— Вунь ужо цэглы навазілі для музея, недзе туды пад восень пачнем. Нам ёсць што паказаць і аб чым расказаць. У нас чалавек з дзесяць кавалераў ордэнаў Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга. Шмат заслужаных калгаснікаў. Іх вопыт, жыццёвую мудрасць трэба неяк адлюстраваць для нашчадкаў. Асобны раздзел у музеі адвядзем экспазіцыі, прысвечанай трагедыі вёскі Калодзезнае.

Урэшце, Руднае, Савічы, Калодзезнае — партызанскія вёскі праз усе доўгія гады варожай акупацыі, вёскі, дзе кожны жыхар быў народным мсціўцам. Адным словам, музей у нас будзе, прыязджайце на адкрыццё...

...Вакол Руднага — сівыя, задумлівыя, нямыя сведкі ратных подзвігаў партызан і звярынай лютасці ворагаў. І хоць цяпер адметнай рысай вёскі сталі рыштаванні, белыя, дыхаючыя смалой і стружкамі зрубы, бары стаяць некранутымі. Руднянцы жывуць не адным сённяшнім днём — яны думаюць аб тых маленькіх грамадзянах, што шчабечуць у двары дзіцячага садзіка і прыйдуць на змену бацькам і дзядам праз некалькі гадоў — вырошчваць хлеб, закладваць сады, узводзіць жыллё.

Капыльскі раён.

---

ГАСТРОЛЬНАЕ ЛЕТА

# ЗАСЛОНУ АДКРЫЛІ СМАЛЯНЕ

Пазаўчора спектаклем «Цар Фёдар Іаанавіч» па трагедыі А. Талстога ў Мінску пачаў гастролі Смаленскі абласны драматычны тэатр.

Гледачы беларускай сталіцы добра ведаюць гэты цікавы творчы калектыў: улетку 1969 года ён выступаў на мінскіх падмостках. Тады мінчане ўпершыню ў сваім горадзе пабачылі драму «Залатая карэта» Л. Ляонава, «Горскую трагедыю» («Майстры») балгарскага драматурга Р. Стаянава і «Салаўіную ноч» В. Яжова. Смаляне зарэкамендавалі сябе як трупа ўдумлівых і дапытлівых артыстаў, здольных глыбока раскрываць праўду жыцця ў яркай сцэнічнай форме. Мінскія тэатралы яшчэ помняць лепшыя работы заслужаных артыстаў Расійскай Федэрацыі Т. Калачэўскай, А. Юклаеўскага, В. Кабанава, Н. Шашанковай, С. Чарэднікава і іх партнёраў.

**Нашы госці беражна захоўваюць традыцыі рускай рэалістычнай школы акцёрскага мастацтва. Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі тэатр у Смаленску, як і наогул сцэнічнае мастацтва краіны, замацоўваючы лепшыя дасягненні мінулага, узбагачаў гэтыя традыцыі выразнай ідэйнай яснасцю ў трактоўцы і класікі, і сучасных п'ес. Гэтаму спрыяла моцная і аўтарытэтная на тыя часы рэжысура — у Смаленску працавалі І. Растоўцаў, Л. Самборская, З. Славянава, М. Пакроўскі, Ул. Пазнанскі, якія сваімі пастаноўкамі праславілі не адзін правінцыяльны тэатр Расійскай Федэрацыі, а ў славутым горадзе на Дняпры пакінулі незабыўны след.**

Пра сталасць смалян сведчыць і тое, што, напрыклад, іх «Залатая карэта» вытрымлівае своасаблівае творчае спаборніцтва з пастаноўкамі гэтай жа драмы ў купалаўцаў або ў Маскоўскім тэатры на Малой Броннай і не траціць мастацкай арыгінальнасці ў параўнанні з імі. Па-рэжысёрску смела, з паглыбленнем у філасофскую сутнасць драмы-прытчы вырашана нашымі гасцямі «Горская трагедыя». Разам з аўтарам тэатр як бы ставіць пытанне перад героямі і гледачамі: «Якім закліканы быць чалавек, што так гарача адстойвае права на свабоднае каханне, на свабодны пошук у мастацтве, на мысленне без забабонаў? Дзе крыніцы яго натхнення?» І гэта асабліва каларытна перадаецца ў пафасе сцэнічнага твора, дзе так мэтанакіравана дзейнічаюць сапраўдныя майстры-чараўнікі народнага мастацтва Балгарыі пачатку мінулага стагоддзя. Як мы помнім, спектакль часта гучыць у смалян з шэкспіраўскім напалам і маштабнасцю высокай трагедыі.

Сыграўшы на адкрыццё гастроляў «Цара Фёдара Іаанавіча», захаваўшы і на гэты раз у рэпертуары «Горскую трагедыю», госці пазнаёмяць мінчан яшчэ з двума спектаклямі, прысвечанымі мінуламу. «Сялом Сцяпанчыкавам» паводле Ф. Дастаеўскага і «Дзецьмі Ванюшына» С. Найдзёнава. Галоўнае ж месца на гастрольнай афішы аддадзена сучаснай драматургіі.

**Малады чалавек у нашым грамадстве, юнак той пары, аб якой так часта гавораць, што яна характарызуецца надзвычайнай узроставай акселерацыяй, — вось герой большасці з новых пастановак жнівеньскіх гастралёраў у Мінску. «Новых» — і не зусім. Бо мы будзем мець магчымасць параўноўваць, скажам, «Казкі старога Арбата» ў смалян з тым, што ўжо ігралася Ленінградскім акадэмічным тэатрам імя А. Пушкіна, Тбіліскім рускім тэатрам імя А. Грыбаедава, Рускім тэатрам БССР імя М. Горкага і масквічамі з Малой Броннай. Ёсць свае традыцыі і ў сцэнічнай трактоўцы п'есы «У добры час» В. Розава. Пра «Саслужыўцаў» і гаварыць падрабязна не варта: камедыя Э. Разанава і Э. Брагінскага іграецца, здаецца, кожным другім тэатрам краіны. Затое ў сэнсе сцэнічнага гучання для мінчан «тэра інкогніта» — і «Валянцін і Валянціна» М. Рошчына, «Маскоўскія канікулы» А. Кузняцова. Тут нас чакаюць адкрыцці арыгінальных драматургічных твораў, першае знаёмства з «жывым» іх выкананнем.**

Ведаючы культуру сцэнічнай працы калектыву Смаленскага абласнога тэатра, можна спадзявацца, што і на гэты раз яго рэпертуарныя навінкі прынясуць радасць гледачам. Востра драматычныя канфлікты, у якіх ідзе сур'ёзная маральная спрэчка паміж носьбітамі розных поглядаў на «што такое добра» і «што такое дрэнна» ў паўсядзённым жыцці маладога чалавека нашых дзён, прыцягне многіх прыхільнікаў сучаснай тэматыкі на «агеньчыкі» прэм'ер «Валянціна і Валянціны» і «Маскоўскіх канікул». Абаяльнасць жа розаўскіх няўрымслівых хлопцаў і дзяўчат, якія звычайна на асабістым вопыце (хай сабе зусім маленькім, але абавязкова асабістым!) шукаюць адказу на адвечныя і заўсёды актуальныя для маладога пакалення пытанні — якім быць і як жыць, каб мець права адкрыта і сумленна глядзець у вочы сяброў і ў сваю душу, — іх юнацкі запал і максімалізм прываблівають і аднагодкаў гэтых герояў, і людзей старэйшых узростаў.

...Заслона адкрыта. Знаёмства пачалося. Прагучалі першыя апладысменты. Паднесены першыя букеты жнівеньскіх кветак Беларусі. Адзін са старэйшых тэатраў Расіі гастралюе ў Мінску.

Зычым поспехаў смалянам!

---

# ТРАДЫЦЫЯ І МОДА

**У САЛОН - МАГАЗІНЕ Мастацкага фонду БССР, у Мінску, на Ленінскім праспекце, пакупнікоў хутчэй можна прыняць за наведвальнікаў музея ці выстаўкі. Яны ўважліва, з намерам калі не набыць выстаўленую рэч, то ва ўсякім выпадку палюбавацца прыгажосцю, аглядаюць посцілкі, вытканыя беларускай сялянкай Е. Бялкоўскай, чаканку, выкананую А. Сірэнкам, выкладчыкам фізкультуры з Мінска, керамічны посуд ганчароў з-пад Крычава.**

**Усё гэта не прамысловыя тавары, а мастацкія вырабы, большасць з якіх — унікальная работа народных умельцаў. Часцей за ўсё яны выкананы ў адным экземпляры. Вось чаму і дублёны кажушок з вышыўкай, і драўляны кій, аздоблены разьбой, і вышываны абрус набываюць асаблівую каштоўнасць. Яны непаўторныя.**

**Мастакам, якія складаюць савет салон-магазіна, даводзіцца часам бываць у самых аддаленых кутках краіны, дзе яны знаходзяць умельцаў, рэдкая праца якіх заслугоўвае пільнай увагі і клопату.**

**— У нашым магазіне вы можаце знайсці шмат цікавага — рэчы, зробленыя ва ўсіх кутках нашай краіны,— гаворыць дырэктар салона Мікалай Ільіч Галіч і паказвае мне цудоўную чаканку з Арменіі, зробленую народным майстрам Э. Шакаранам.**

**— Сярод нашых пакупнікоў, — працягвае ён, — многа прыезджых, гасцей нашай сталіцы, якія хочуць набыць нешта арыгінальнае ў нацыянальным духу.**

**Маладая жанчына з усходнім разрэзам вачэй працягнула чэк старшаму прадаўцу Е. Падгорнай.**

**На пытанне, чаму менавіта гэты абрус яна выбрала, адказала:**

**— У нас, у Якуціі, шмат разьбяроў, а вось даматканых абрусаў не знойдзеш. Мне хочацца купіць не толькі абрус, але і вышываны ручнік, які часцей сустрэнеш у вершах, чым у гарадской кватэры.**

**Былы воін, пенсіянер В. Кудзіяр з Віцебска нічога не купляў, ён проста прыйшоў сюды паглядзець карціны, бо і сам малюе. Ён надоўга затрымаўся ля карцін Л. Шыбнёва.**

**— Нам патрэбна рэклама, — гаворыць дырэктар магазіна. — Хочацца, каб умельцы з вёсак і гарадоў рэспублікі ведалі, што іх працамі цікавяцца, што яны захоўваюць і памнажаюць сакрэты старадаўняга непаўторнага нацыянальнага мастацтва, якое ніколі не выходзіць з моды.**

**Уладзімір ЗАМКАВЕЦ.**

не проста дэтэктывы альбо белетрыстыку, — пад вадзіцельскім сядзеннем у палявой сумцы былі кнігі па тэатразнаўстве, па тэорыі драматургіі. Вось вам і шафёр! Здаецца, штосьці ў гэтым плане я і сказаў яму тады. А ён... Не, не пакрыўдзіўся. «Што ж, — кажа,— розныя бываюць сярод нас. Здараецца, паклічуць хлопцы стопку ўзяць, а я кажу, што лепей пачытаю. Спачатку пасміхаліся, а зараз — не. Наадварот...»

Шафёр, удзельнік самадзейнага тэатра, завочна скончыў тэатразнаўчае аддзяленне тэатральна-мастацкага інстытута. Стаў галоўным рэжысёрам народнага тэатра. П'есу напісаў. З жыцця шафёраў. Што ні кажыце, а кранае, — як тут без добразычлівасці ўспрымеш гэты факт, нягледзячы на тое, што сам аўтар вынікамі пастаноўкі не вельмі задаволены...

У абарону аўтара, рэжысёра і яго калег скажу адно: глядач, які быў на прэм'еры, горача выказваў задаволенасць і ўсхваляванасць як па ходу дзеяння, так і пасля закрыцця заслоны. Глядач — галоўная камісія — прыняў спектакль. Афіцыйная камісія—таксама. Чым жа ён прывабіў, чым усхваляваў?

Я зноў перагарнуў старонкі п'есы і спыніўся на прадмове, якую аўтар цалкам адрасуе мастаку. Вось што там сказана:

«Мне хочацца, каб мастак тэатра знайшоў вобразную дэталь, якая б сімвалізавала галоўную думку спектакля. Напрыклад, пухленькая галоўка аднагадовага бутуза дзесьці ў баку блакітнага задніка альбо штосьці ў гэтым сэнсе. Бо калі ўдумацца, дык менавіта лёс грамадзяніна нашай будучыні стаіць у цэнтры ўвагі».

Мастак В. Вошчаў выканаў параду аўтара: на задніку — застаўка з залатымі промнямі, з фігурай маці, да якой бяжыць, закінуўшы галоўку, шчаслівае дзіця (не памятаю, чый гэта графічны ліст, але твор вядомы).

Коратка перакажу сюжэт п'есы.

Шафёр Косця Суханаў праз якіх тры месяцы пасля вяселля даведваецца, што ў яго ёсць сын, якога маці кінула ў радзільным доме. Кінула і дзесьці знікла. Павагаўшыся, ён вырашыў забраць дзіця. Забраў. І выгадаваў. Сам. Бо жонка Ала не захацела дараваць Косці колішні раман і ўсынаўляць ягонае дзіця. Ёсць у сюжэце драматызм і меладраматызм, ёсць жанравыя сцэны з цешчай—«падпальшчыцай вайны», з сябрамі і дзяўчатамі, якія кпяць з пакінутага «бацькі-адзіночкі». Ёсць сцэны дзейсныя і ілюстрацыйныя. І ёсць галоўнае — высакародная ідэя чалавечнасці, трываласці. На ёй трымаецца спектакль.

Аб выканаўцах.

Найвялікшы поспех выпадае на долю школьніка Алега Галабурды, які іграе ролю сына Косці, маленькага Артура. Шчырасць, непасрэднасць і прывабнасць выканаўцы цалкам заваёўваюць яму сімпатыі глядзельнай залы, і ..на хвалюецца за лёс «грамадзяніна нашай будучыні». Адзначаючы прыроджаную здольнасць юнага артыста, варта разам з тым аддаць належнае разумнай рэжысёрскай метадалогіі ў рабоце з ім: ёсць элементарныя пачаткі ўмення зносіцца з партнёрамі, жыць праўдай клопатаў, задач, пачуццяў. Зразумела, рана меркаваць аб тым, ці адаб'ецца гэты поспех на жыццёвай біяграфіі Алега, ці ўвойдзе ў яго чалавечы лёс, як гэта адбылося з М. Манохіным, але, напэўна ж, след у фарміраванні яго характару пакіне. Гэта я пішу з улікам, што ў Алега вельмі «выйгрышная» роля, як і ў выканаўцы ролі яго бацькі — балетмайстра РДК Ю. Глушнева. Сімпатыі глядзельнай залы адрасаваны іх героям, і таму іх поспех шмат у чым прадвызначаны самім сюжэтам.

А вось у А. Гужовай, выканаўцы ролі Алы, больш складанае становішча: глядач не можа не асуджаць учынкаў гераіні (кінула такога хлопца!), і ўсё ж актрыса здолела стварыць прывабны вобраз чалавека са складаным светам духоўнага жыцця. У дадзеным выпадку ёсць падставы гаварыць аб прафесійнасці, аб выхаваным сцэнічным гусце і пэўнай творчай перспектыве. А. Гужова выхавана тут, у Полацкім народным. Яна займаецца завочна на рэжысёрскім факультэце аддзялення культасветы ў тэатральна-мастацкім інстытуце. Як займаецца, не ведаю, але ўпэўнены, што яна будзе карысным чалавекам для справы эстэтычнай адукацыі людзей, — такіх, як Таня Кох і Таня Казлова (прадаўшчыцы універмага, яны выконваюць у спектаклі ролі Ані і Касачовай), пенсіянерка Я. Муніц (іграе ролю маці Алы), педагог В. Метла (іграе дырэктара аўтабазы Рыгора Карпавіча), выхавацелька дзіцячага сада Г. Волкава (іграе ролю дыспетчара Алены), памочнік майстра шклозавода Ю. Мішчанка (іграе шафёра Віктара) і іншых. Хай ім спадарожнічае поспех. Пажадаем поспеху і дэбютанту-драматургу ў сцэнічным лёсе гэтай п'есы і ў стварэнні новых.

# МАСКВА ГАВОРЫЦЬ: «ДЗЯКУЙ!»

## ЗАГАД МІНІСТРА КУЛЬТУРЫ СССР

З 5 па 26 ліпеня ў Маскве, на сцэне Маскоўскага мастацкага акадэмічнага тэатра імя М. Горкага праходзілі гастролі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. У сувязі з заканчэннем гастроляў міністр культуры СССР К. Фурцава выдала загад, у якім, прынамсі, гаворыцца:

«Тэатр імя Я. Купалы — адзін з вядучых тэатральных калектываў краіны — паказаў у час гастроляў у Маскве найбольш значныя спектаклі свайго рэпертуару.

Масквічы пазнаёміліся з цікавым сцэнічным прачытаннем п'ес сучасных беларускіх драматургаў: «Людзі на балоце» І. Мележа, «Трыбунал» і «Зацюканы апостал» А. Макаёнка, «Амністыя» М. Матукоўскага. Руская класіка была прадстаўлена п'есай А. Астроўскага «Апошняя ахвяра». Тэатр паказаў дзве прэм'еры — «Раскіданае гняздо» беларускага класіка Я. Купалы і трагедыю сучаснага башкірскага драматурга М. Карыма «У ноч месячнага зацьмення».

Пастаноўку «Раскіданае гняздо» тэатр прысвяціў 90-годдзю з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта і драматурга Янкі Купалы, імя якога носіць тэатр.

Спектакль «У ноч месячнага зацьмення» падрыхтаваны да Усесаюзнага фестывалю драматургіі тэатральнага мастацтва народаў СССР.

Спектаклі тэатра імя Янкі Купалы карысталіся ў маскоўскага гледача нязменным поспехам, атрымалі высокую ацэнку тэатральнай грамадскасці і прэсы, што сведчыць пра значныя творчыя дасягненні калектыву.

За час гастроляў тэатр паказаў 23 спектаклі, правёў сустрэчы з рабочымі заводаў «Дынама», «Чырвоны волат» і саўгаса «Пушкіна» Маскоўскай вобласці. Тэатр падрыхтаваў перадачу пра творчую дзейнасць калектыву па Цэнтральным тэлебачанні.

У сувязі з паспяховым правядзеннем гастроляў у Маскве аб'яўляю **падзяку** калектыву Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы».

# УОЛТЭР МЭЙ ЗНОЎ У НАС У ГАСЦЯХ

Англійскі паэт і перакладчык Уолтэр Мэй праводзіць свой адпачынак у Беларусі. Пазаўчора ў Саюзе пісьменнікаў БССР ён сустрэўся з групай беларускіх літаратараў. Іван Шамякін расказаў госцю, як жывуць і над чым працуюць літаратары рэспублікі. Уолтэр Мэй падзяліўся сваімі ўражаннямі пра Беларусь, прачытаў толькі што напісаную паэму пра Хатынь, пераклады вершаў Янкі Купалы «А хто там ідзе?» і «Касцам», расказаў аб сваёй працы над стварэннем анталогіі беларускай паэзіі на англійскай мове. Юбілею класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа Уолтэр Мэй прыносіць свой дар — пераклады іх твораў.

У гутарцы прынялі ўдзел Васіль Вітка, Аляксей Зарыцкі, Мікола Гамолка, Язэп Семяжон.

# ВЕРНІСАЖ ПЕРАСОЎНІКАЎ У МІНСКУ

**Мінчане і госці сталіцы рэспублікі з задавальненнем наведвалі выстаўку пейзажу перасоўнікаў, якая экспанавалася ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР у сувязі са 100-годдзем Таварыства перасоўных мастацкіх выставак.**

**І вось — чарговы вернісаж перасоўнікаў у Мінску. Днямі адкрылася экспазіцыя «Жанравы жывапіс перасоўнікаў». Яна разгорнута таксама ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.**

*Міністэрства асветы БССР і Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку вырашылі прадоўжыць тэрмін конкурсу, аб'яўленага 20 мая 1969 г., на стварэнне падручніка па беларускай літаратуры для 8 класа агульнаадукацыйных школ Беларускай ССР да 1 верасня 1973 года.*



Салдат захавае на ўспамін здымак з народным артыстам СССР В. Хахраковым. Захавае ён у сэрцы і цяпло бацькоўскіх слоў акцёра, які на экране і на сцэне сыграў многа роляў воінаў і камандзіраў Савецкай Арміі. Такое не забываецца!

Гэта — толькі адзін з фактаў садружнасці работнікаў мастацтва з воінамі Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі.

Фота Я. МЯЦЕЛІЦЫ.

*РЭПЛІКА*

# А ПАДУМАЦЬ ВАРТА...

У МАСТАЦТВЕ другарадных з'яў і кампанентаў не бывае. Тэатр пачынаецца з гардэроба. Ісціны, якія і не хочаш, а паўтараць цябе жыццё ўсё ж прымушае. Дробязі... Напрыклад, на старонках «Літаратуры і мастацтва» была выказана заўвага адносна таго, што Акадэмічны тэатр імя Я. Купалы ні на афішы, ні ў праграмах спектакля «Без віны вінаватыя» А. Астроўскага не называе імя перакладчыка п'есы на беларускую мову. Адміністрацыя прачытала той нумар газеты і... усё засталося на афішы і ў праграмках па-ранейшаму: не ведае глядач, хто зрабіў для купалаўцаў пераклад. Штосьці ў так званай «экіпіроўцы» спектакля парушана. Крыўдна!

А звярніце ўвагу на тое, як тэатры прадстаўляюць гледачу вядомыя п'есы. «Апошняя ахвяра» на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы пазначана як «камедыя ў 2-х частках», «Без віны вінаватыя» — «камедыя ў 2-х частках, 4-х карцінах». Купалаўскае «Раскіданае гняздо» тут таксама іграецца ў тых жа, надзвычай распаўсюджаных і модных у тэатрах 2-х частках. Або пачытайце афішу Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа: «Клоп» Ул. Маякоўскага— «феерычная камедыя ў 2-х частках», «Марыя Сцюарт» Ф. Шылера — «трагедыя ў 2-х частках», тое ж самае і з «Многа шуму з нічога» У. Шэкспіра. Тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі іграе «Мяшчан» М. Горкага зноў жа як «п'есу ў 2-х актах, чатырох карцінах». Рускі тэатр БССР імя М. Горкага на свой манер падае колькасць дзей і актаў «Марыі Сцюарт» і «Дзяцей Ванюшына»...

Не будзем даваць тыя вызначэнні жанру (а колькасць дзей, пэўны рытм пабудовы сцэнічнага відовішча мае далёка не апошняе значэнне для драматурга) па тым, як кожная з названых вышэй п'ес «ахрышчана» аўтарамі. Зазначым толькі, што паважаць такія вызначэнні трэба. І не збіваць з панталыку чытача, які добра ведае, што «Рамэо і Джульета» — трагедыя ў 5-ці дзеях, а «Раскіданае гняздо» — драма ў 5-ці актах... Адвольна, кіруючыся толькі хранаметражам і рэжысёрскім падзелам тэксту на «часткі», прышпільваць да аўтарскай назвы новы падзагаловак, відаць, тэатры не маюць права. І яны разумеюць гэта. Скажам, нашы сёлетнія гастралёры — Маскоўскі тэатр на Малой Броннай — называлі «Рамэо і Джульету» «спектаклем у 2-х частках». Гомельскі абласны тэатр вызначае «Тры сястры» як «драму ў 4-х дзеях (антракт пасля 2-й дзеі)». І гэта правільна! Бо трагедыя Шэкспірам была напісана ў 5-ці дзеях, а на сцэне ідзе «спектакль у 2-х частках» (праўда, гэта толькі папярэджвае гледача пра тое, што будзе адзін антракт). Гамяльчане наогул захавалі чэхаўскае — «4-ы дзеі» і ў дужках абвясцілі пра адзін антракт.

Як лепш? Наогул не называць аўтарскага падзелу п'есы на дзеі і на акты і толькі пазначаць «спектакль у...»? Даваць і аўтарскае, і сваё, «ад тэатра» вызначэнне? Або скарыстаць практыку канцэртных канферансье і друкаваць — твор выконваецца, маўляў, без антракту («А зоры тут ціхія...» у Рускім тэатры БССР імя М. Горкага), або з адным ці двума антрактамі?

Пра гэта варта падумаць і кіраўнікам тэатраў, і загадчыкам літаратурных частак, і БТА. Пагадзіцца з тым, як яно робіцца цяпер, калі кожны тэатр «прыпісвае» да назвы п'есы любы жанр і любы падзел на дзеі-часткі, нельга. Волю аўтара мы ўсе абавязаны шанаваць і не маем права «перакрэсліваць» напісанае рукой А. Астроўскага або М. Горкага і «ўносіць» нешта ад сябе. Калі ласка, стаў і ірай «Раскіданае гняздо» ў 2-х частках, калі гэта абгрунтавана па-мастацку і мэтазгодна, але не забудзь надрукаваць на афішы тое, што было ў Я. Купалы — «драма ў 5-ці актах»...

Той, хто сапраўды лічыць, што дробязяў не бывае ў мастацтве, падумае наконт гэтага. Бо падумаць варта!..

В. І.

# ...Я ТУТ БАЧУ СВОЙ КРАЙ

«ПАЛЕШУКОЎ» і «Палевікоў» у майстэрні Міхаіла Бяляева шмат. Стаяць яны — яснавокія і панурыя, ціхія, задумліва-таямнічыя і з шырокім, размашыстым характарам, — і здаецца, што ў майстэрню сабраліся ўсе паганскія багі. Мастак шукае...

Упершыню дэкаратыўная скульптура «Брат Палявік і брат Паляшук» была паказана на мастацкай выстаўцы ў 1967 годзе. Поўны, з добрай усмешкай, твар «Палевіка» асветлены мяккім унутраным святлом. Здавалася, сам добры, прамяністы бог палёў паўстаў перад гледачамі; пасмы яго валасоў, барада нагадваюць пучкі зрэзаных сцяблоў. І цяжка было паверыць, што гэты казачны персанаж, які жыў, гаварыў з гледачом, зроблены з цвёрдага шамоту.

Задумліва-суровы,ануры і крыху насцярожаны «Брат Паляшук». У ім чытаюцца воля, годнасць, неадольная сіла. Ёсць у ім штосьці ад казачнага лесавіка, які нечакана з'яўляецца з лясного гушчару і гэтак жа раптоўна знікае, быццам растваpаючыся ў ім.

У Бяляева сваё бачанне прыгажосці — і свой почырк. Свая, не падобная на іншыя, манера выканання.

Мастак блукаў па лясах, ціхіх рачулках, глухіх азёрах; назіраў жыццё сучаснага Палесся. Паступова складваліся ўяўленні аб палескім краі, яго людзях, нараджаліся вобразы. Бяляеў спрабаваў улавіць духоўную сувязь пакаленняў, асаблівасці, самую сутнасць характару палешука. Углядаўся, слухаў, здзіўляўся, ляпіў, разбіваў ужо высахлую гліну, зноў ляпіў... Дзе мяжа паміж легендай і рэчаіснасцю, як перадаць жывую сувязь часоў, як паказаць усё гэта ў дэкаратыўнай пластыцы?..

Імкнучыся перадаць і абагульніць духоўны склад характару свайго сучасніка, Міхаіл Бяляеў стварае серыю работ, якія часам набліжаюцца да станковай скульптуры. Гэта прыгожая «Мазырчанка» ў характэрным беларускім дэкаратыўным уборы (тэракота, глянцаваны шамот), «Мара» (шамот, солі металаў), трохфігурная кампазіцыя «Дзяўчаты Смаргоншчыны». Углядаючыся ў гэтыя творы — выдатныя па вобразнасці, арыгінальныя па тэхнічным рашэнні, — нельга не адзначыць творчую смеласць аўтара. Яго алегорыі, сюжэтныя кампазіцыі можна паставіць у адзін рад з такімі партрэтнымі творамі Бяляева, як «Сястрычка» і партрэт дэлегаткі XVI з'езда ВЛКСМ Зінаіды Янчуковіч, у якіх мастак з вялікім майстэрствам і тактам здолеў увасобіць лепшыя рысы, уласцівыя нашай моладзі. Асабліва гэта ўдалося Бяляеву, як нам здаецца, у партрэце Янчуковіч. Тут і воля, і жаночае абаянне; горда ўзнятая галава спалучаецца з адкрытым прыветным тварам, смелым дапытлівым позіркам.

Міхаіл Бяляеў тонка адчувае прыгажосць роднай прыроды, гармонію яе форм, ліній, фарбаў, яе паэзію. Лірычнае ўспрыманне веснавога росквіту прыроды ўвасоблена мастаком у дэкаратыўнай скульптуры «Вяснянка». Алегарычнымі вобразамі — прыгожымі жаночымі галоўкамі — ажываюць у творах Бяляева маляўнічыя рэкі Міншчыны — Іслач, Бярэзіна.

Значнае месца ў творчасці Бяляева займае анімалістычная скульптура. Жывёліны ў яго работах жывуць сваім звычайным жыццём — палююць, адпачываюць. Вось асцярожна і нячутна крадзецца рысь, застыла на галінцы сава, падрыхтавалася да скачка вясёлая вавёрачка, а вось імкліва імчыцца дзік.

У работах М. Бяляева адчуваецца імкненне да прастаты, плаўнай цякучасці ліній, выразнасці сілуэта, умеркаванай абагульненасці форм. Ён — мастак лірычнага плана. Глыбока адчуваючы матэрыял, Бяляеў дабіваецца ў сваіх творах пластычнасці, моцнага гучання і тэхнічнай завершанасці. Гэтаму садзейнічае і сур'ёзнае вывучэнне тэхналогіі і форм традыцыйнай народнай керамікі Беларусі.

Інтарэсы мастака шматгранныя. У сааўтарстве з Фёдарам Зільбертам ён стварыў, напрыклад, серыю керамічных пласцін «Ураджай», «Палявод», «Эстафета», «Гусі-лебедзі», «Па ваду» для гасцініцы «Турыст» у Мінску. Выкарыстоўваючы шамот і солі металаў, валодаючы арыгінальнымі прыёмамі работы, мастакі дабіліся высокай вобразнай выразнасці. Пастаянна працуе Бяляеў і над рознымі бытавымі прадметамі. Радуюць колерам, прыгажосцю сілуэта яго дэкаратыўныя вазы, прыцягвае ўвагу серыя невялікіх статуэтак у фарфоры («На каменьчыку», «Частушкі», «Птушка»).

Зараз, калі Міхаілу Бяляеву спаўняецца пяцьдзесят, паўстае пытанне: многа гэта ці мала? Для Бяляева — гэта ўзрост творчай сталасці, калі ўжо вызначылася мастацкая індывідуальнасць, калі мастак пасля доўгіх пошукаў, роздуму, жыццёвых назіранняў прыходзіць да значных абагульненняў.

Пасля заканчэння Маскоўскага інстытута дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва М. Бяляеў спалучае сваю творчую дзейнасць з педагагічнай работай у Львове; дзесяць гадоў назад ён стаў загадчыкам кафедры мастацкай керамікі Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Чалавек высокай культуры, ён здолеў зразумець і адчуць нацыянальныя рысы беларускай культуры, ацаніць традыцыі нашага народнага мастацтва. Тут, у Беларусі, стварае Міхаіл Бяляеў лепшыя свае творы.

Цяпер мастак працуе над серыяй дэкаратыўных скульптур «Беларуская сюіта». З поўнай падставай можна спадзявацца, што яна, як і папярэднія работы, будзе ёмістай і па-сапраўднаму цікавай.

**Ф. ВАЛАДЗЬКО.**

Уладзімір БОЙКА

# МАЙСТЭРНЯ ПАД СОНЦАМ

*ЭЦЮДЫ*

НЯЎЖО вы мяркуеце, што ваша асабістае жыццё не склалася б іначай, калі б доктар Чэхаў, напрыклад, так і застаўся проста практыкуючым урачом?.. А калі б Пушкіна не забілі на дуэлі?.. А калі б Максім Багдановіч не захварэў на сухоты?.. А калі б Эйнштэйн не любіў скрыпку?..

Пагадзіцеся, кожны знойдзе для сябе не так ужо мала падобных «а калі б»...

КАЖУЦЬ, каларыт палотнаў Левітана значна змяніўся, бо мастак дапускаў пралікі ў тэхналогіі — грунтах, спалучэннях фарбаў і да т. п.

Значыцца, бачым левітанеўскія пейзажы інакшымі, чым яны паўставалі некалі перад вачыма сучаснікаў Стасава, Рэпіна, Урубеля...

Ёсць і такое: «каларыт» твора ў кантэксце эпохі. Гэта ўжо менш залежыць ад тэхналогіі.

Ад таго, што былі на Зямлі Някрасаў, Цютчаў, Блок, Маякоўскі, Купала, мы ў нечым істотным іначай успрымаем паэзію Пушкіна, чым яе ўспрымалі, дапусцім, Венявіцінаў або Бястужаў...

ІНШЫ раз кажуць: чалавек уцякае ад адказнасці.

Не, няпраўда. Не можа ўцячы. Жыццё раптам пакліча да адказнасці там, дзе той, хто спрабаваў уцячы, думаў, што ён у ціхай завадзі...

Кожны, хто жыве на гэтым свеце, поўнаю мераю адказны за ўсё, што адбываецца. І хто не ўцякае ад адказнасці, а ўскідае гэтую складаную і цяжкую ношу на плечы,—чалавек творчы, незалежна ад таго, у якой сферы чалавечай дзейнасці заняты.

Так, творчасць—гэта перш за ўсё адказнасць... Перад людзьмі і перад сабой.

ЖЫЎ ДЫ БЫЎ на свеце не так ужо даўно чалавек, якога звалі Уладзімір Скуйбін. З трыццаці чатырох гадоў жыцця чатыры аддаў пастаноўцы фільмаў — «На графскіх руінах», «Жорсткасць», «Цудатворная», «Суд».

Раздумваючы пра ягоную творчасць, адзін аўтар вельмі тонка заўважыў:

— Сюжэт—не забаўка, сюжэт—жыццё чалавечае...

Не ведаю, ці акрэсліваў гэтак жа свае намаганні сам Уладзімір Скуйбін. Але наколькі меней штампаў было б у мастацтве, калі б часцей аглядаліся на гэтую «формулу»: жыццё чалавечае, а не забаўка...

Твой сюжэт—твой учынак. І ты за яго адказны.

ДЫСГАРМОНІЯ ў мастацтве можа выступіць як форма праяўлення гармоніі!.. Калі яна, дысгармонія, падпарадкавана сэнсу твора, яго накіраванасці.

ВОСЬ ужо колькі гадоў, як памёр Валянцін Віктаравіч Волкаў.

Разам з ім, між іншым, памерлі і падрабязнасці сустрэчы яго з Ільёй Яфімавічам Рэпіным.

Гэтая сустрэча адбылася некалі на акадэмічнай выстаўцы каля яго, Волкава, дыпломнай работы «Сусана і старцы». Спадзеючыся на памяць, я дэталёва не запісаў яго расказ. Запомнілася толькі, што Рэпін станоўча паставіўся да волкаўскага дыплома, павіншаваў, пагаварыў з аўтарам.

Мабыць, водгук Рэпіна многае вызначыў у Волкаве-мастаку. Нешта істотнае вызначыў. І цяпер больш дэталёва распытаць пра тую сустрэчу няма каго.

Так вось і жыву з адчуваннем віны за колішнюю ляноту сваю і нерашучасць...

Не зразумейце гэта, як лямант: спяшайцеся пісаць мемуары!..

Гэта—пра іншае: пра неабходнасць верыць—ёсць рэчы, якія замест цябе ніхто не напіша, не запіша. І лянота твая абернецца стратай не толькі для цябе аднаго...

НАВАПОЛАЦК. Нафтаперагонны завод. Хітрасплячэнні труб. Эстакады. Дзівосныя вежы.

Адчуваеш, быццам на Марс трапіў. Фантастычная графіка рэальнасці.

ШТО такое сапраўдны аўтапартрэт? Зразумець гэта памагаюць аўтапартрэты Кетэ Кольвіц. Асабліва той, дзе яна падтрымлівае лоб левай рукою. І левае вока яе ў ценю. Хаця нам здаецца, што мы яго бачым—таму што так пільна глядзіць на вас, міма вас і яшчэ некуды ў сябе правае вока.

Параўнайце гэты аўтапартрэт чалавека, які надзвычай многа перажыў (хапіла б на добры дзесятак біяграфій!), з выкананым гэтай жа мастачкай на пачатку жыцця—у 1890 годзе, калі яна была зусім маладой.

Нават калі мы зусім не ведаем Кетэ Кольвіц—у аўтапартрэце прачытаем усю біяграфію. Не словамі, а пластыкай расказаную. І хіба ў дэталях біяграфіі справа! Выяўлена біяграфія духу! Вынік жыцця!

Гэта і каментарый да біяграфіі мастачкі, калі мы гэтую біяграфію ведаем. Каментарый без слоў. Але з усёй магчымай у мастацтве мерай дэталізацыі пачуццяў і іх адценняў. Музыка графікі. І мелодыя гэтая—бы ў Бетховена...

Магутны інтэлект. Прыгожае стомленае аблічча. Прыгожы рот. Валявое ўсё ў абліччы і жаноцкае тым часам. А рука! Рука ў гэтым аўтапартрэце—балада працы.

Твар у ценю рукі. І ад гэтага высакародны лоб і штрыхамі намечаныя валасы—німб сівізны. Той сі-

*З пошты ЛіМа*

# ЭКСПЕРЫМЕНТ ПАЧЫНАЕЦЦА

Якое месца ў сярэдняй школе павінна займаць выяўленчае мастацтва ў агульнай сістэме эстэтычнага выхавання? Як удасканальваць яго выкладанне?

Гэтыя пытанні абмяркоўваліся вучонымі, мастакамі, настаўнікамі 12—22 ліпеня 1972 года ў Маскве на спецыяльным усесаюзным семінары, які прысвячаўся маючаму адбыцца цікаваму эксперыменту.

Справа ў тым, што з 1 верасня 1972 года 20 школ Савецкага Саюза пачынаюць працаваць па новых эксперыментальных праграмах. У тым ліку — дзве школы Беларусі. Абедзве на Гродзеншчыне: гарадская і сельская.

Эксперымент павінен дапамагчы разабрацца, чаму цяперашняя праграма не вырашае задач па эстэтычным выхаванні, пастаўленых перад сярэдняй школай. Гэта праграма мае характар папрадметнага малявання і спісачнага вывучэння твораў мастацтва. Яна арыентуе ў першую чаргу на засваенне і развіццё графічнай пісьменнасці. Многія ж не менш важныя задачы эстэтычнага выхавання адсунуты на задні план. Чаму? Перш за ўсё таму, што няправільна вытлумачваецца «Выяўленчае мастацтва» як школьны навучальны прадмет. Вельмі многія настаўнікі і кіраўнікі школ бачаць у занятках выяўленчым мастацтвам толькі поле дзеяння для «таленавітых». Такі пункт гледжання настолькі ўкараніўся ў практыцы, што настаўнікі адкрыта дзеляць клас на «здольных» і «няздольных», забываючы, што для асабліва адораных ёсць яшчэ гурткі, студыі, спецшколы. Бяда і ў тым, што сама методыка выкладання выяўленчага мастацтва ў сярэдняй школе ў многім скапіравана з методыкі, якая выкарыстоўваецца ў мастацкіх навучальных установах.

У выніку любімы прадмет **усіх** вучняў пачатковых класаў паступова становіцца любімым толькі асобнымі ў старэйшых. Выяўленчае мастацтва як навучальны прадмет трациць сілу ўздзеяння на духоўны свет школьніка.

Між тым, на ўроках выяўленчага мастацтва ў школе мы маем справу з дзецьмі адметнымі па характары, тэмпераменце, з рознай ступенню падрыхтоўкі і здольнасцяў. Аднак **усе** яны павінны займацца выяўленчым мастацтвам. Усе!.. Недапушчальна дзяліць клас на «здольных» і «няздольных». Школа ж не рыхтуе мастакоў. Галоўная навучальная мэта школы, калі гаворым пра гэты прадмет, — у іншым.

Мэта прадмета «Выяўленчае мастацтва» ў сярэдняй школе — усебакова эстэтычна выхоўваць чалавека новага камуністычнага грамадства. Бо менавіта выяўленчае мастацтва мае непараўнаную здольнасць уплываць на розум і сэрца дзіцяці, развіваючы ў ім эстэтычны ідэал, які — ужо частка **светапогляду** чалавека. Выяўленчае мастацтва развівае ўяўленне, уменне не проста глядзець, а **бачыць** цэлы шэраг творчых якасцяў, аднолькава неабходных і рабочаму, і калгасніку, і канструктару, карацей кажучы, чалавеку любой прафесіі.

Эпоха навуковага прагрэсу патрабуе ад кожнага спецыяліста палёту фантазіі, творчага прасторавага мыслення, умення ў вядомым адкрываць невядомае. А ўсё гэта ў немалой ступені развіваецца менавіта на занятках выяўленчым мастацтвам.

Правільнай пастаноўцы ўсяго эстэтычнага выхавання ў школе і заклікана садзейнічаць новая эксперыментальная праграма па выяўленчым мастацтве. У ёй засяроджваецца ўвага на развіцці духоўнага пачатку як важнейшай задачы эстэтычнага выхавання чалавека камуністычнага грамадства, развіцці і замацаванні радасці творчасці.

Новая эксперыментальная праграма зыходзіць з патрабаванняў праблемнага навучання. Прынцыповым чынам зменен змест праграмы. У ёй няма традыцыйнага падзелу на такія віды заняткаў, як маляванне з натуры, тэматычнае маляванне, дэкаратыўнае маляванне, гутаркі па выяўленчым мастацтве.

Праграма прадугледжвае пяць відаў заняткаў: адлюстраванне на плоскасці, лепку, прыкладное мастацтва, успрыманне рэчаіснасці, успрыманне мастацтва.

Эксперымент будзе праводзіцца ў два эта-

візны, за якой усё, пра што расказвае твар. Не, не проста твар. А як казалі ў старадаўнасці—лік!

Не так ужо багата ў сусветным мастацтве аўтапартрэтаў, пра якія можна сказаць, як пра гэты: разглядаць можна не толькі многа, доўга, але—бясконца. І ўсё будзеш думаць пра прынцыпова важнае ў чалавеку і ў чалавецтве. І будзеш адкрываць усё новае і новае ў гэтым, такім простым па сродках выканання, творы. Такім простым, як усё сапраўды вялікае...

Глядзіш—і адкрываеш усё новае і новае не толькі ў ім самім, але і ў сабе, у сваёй душы—такая ўлада сапраўднага мастацтва.

Мабыць, у гэтым партрэце нешта істотнае і пра маё жыццё, зусім не падобнае на жыццё Кетэ Кольвіц...

Перад гэтым аўтапартрэтам—быццам перад морам. Адзін за адным ідуць валы. Вось-вось вымахне дзевяты...

ЯК ХАЦЕЛАСЯ Б трапіць на выстаўку малюнкаў Эдуарда Багрыцкага! Уяўляю сабе гэтую выстаўку, чытаючы такія важкія, такія жывапісна рэльефныя радкі паэта. Але, на жаль, ад яго малюнкаў амаль нічога не засталося. Большасць згублена. Захаваліся толькі скупыя радкі тых, што бачылі: «мудрагелістыя насякомыя, дзівосныя птушкі, так дзіўна падобныя да чалавека, які іх намаляваў... Імклівыя малюнкі, якія ўражваюць сваёй вернасцю натуры...»

АДНОЙЧЫ Пятроў-Водкін сказаў: «Чорнае мора апраўдвала сваю назву: грабяні хваль, якія бліскалі ад сонца, былі чорныя ў іх заваротах, як чарніла».

Я таксама бачыў такое, але вось ніяк не мог дакладна вызначыць словам. А ён вось проста сказаў: грабяні былі чорныя ў заваротах, як чарніла...

Айвазоўскі аднойчы паспрабаваў перадаць гэтую чарнату ў карціне, прысвечанай нараджэнню буры. Карціна, кажуць спецыялісты, не атрымалася. Можа менавіта ад таго, што злоўжываў у ёй чорным?..

КАЛІ ў пісьменніка цяжкасці ў адносінах са словам, дык у мастака-жывапісца—з колерам.

Таямніца слова—слова ў кантэксце. Таямніца колеру—колер у суседстве з астатнімі.

Таямніца каларыту. Таямніца ўзаемадзеяння і ўзаемнага адштурхоўвання. Таямніца кантрасту. Сёння многія (асабліва маладыя) мастакі, мне здаецца, пагарджаюць пазнаннем гэтых таямніц. Ці не ад таго глядач інстынктыўна не прымае тое, што можна было б прыняць, калі б яно было вырашана ў колерных адносінах не насуперак законам колеру, каларыту, тону. Не насуперак тым законам, якія мучылі Пятрова-Водкіна: «колерам праяўляецца культура жывапісца, ніякімі дэкаратыўнымі намаганнямі не зацяніць яму ўбоства розуму, волі і пачуцця, калі такія ў ім у наяўнасці,—колер выдасць яго густ і схільнасці характару, а ў першую чаргу пакажа ён, маладосць або азызласць нясе жывапісец гамамі сваіх колерных скал».

Дакладна так і празаік — слова выдае схільнасці яго характару, яго густ, яго маладосць або друзласць.

ДОБРАЯ ПАРАДА — Аляксандра Яшына: «Бойся гладкапісу. Няхай і каструбаватая думка, але—свая... Свой вобраз... Сваё вытлумачэнне таго, пра што іншыя напішуць па-свойму... І старайся, каб твае каструбаватасці не правілі, бо менавіта ў іх можа быць тваё зерне...».

---

пы да 1980 года. Першы этап — у 1972—1975 гг., другі, які мяркуецца зрабіць масавым, — у 1975—1980 гг.

Па новай праграме «Выяўленчае мастацтва» ў школе ўводзіцца з першага па дзесяты класы па дзве гадзіны на тыдзень. У нацыянальных школах — з першага па адзінаццаты.

У 1—3 класах адна дадатковая гадзіна ў тыдзень уводзіцца за кошт урока працы. Гэта вельмі своечасовае рашэнне, таму што многія тэмы выяўленчага характару ўведзены ў праграмы працы і разглядаліся ў першую чаргу з пункту гледжання рамяства, а не з пункту гледжання спецыфікі мовы таго або іншага віду мастацтва.

У 4—6 класах адна дадатковая гадзіна ў тыдзень уводзіцца ў расклад звыш сеткі. Гэта мера пакуль што часовая і не павінна выклікаць якой-небудзь перасцярогі аб перагружанасці дзяцей. Як паказалі эксперыменты ў шэрагу зарубежных краін, увядзенне ў сетку раскладу дадатковых гадзін па эстэтычных дысцыплінах не толькі не зніжае паспяховасць па ўсіх астатніх дысцыплінах, а наадварот — павышае яе. Так, у Венгрыі ў эксперыментальных школах штодзённа ўводзіліся ў расклад заняткі па музычных дысцыплінах. Паспяховасць вучняў аказалася вышэйшая, чым у кантрольных класах, а на ўроках матэматыкі разгубленасць вучняў рэзка знізілася. Падобныя эксперыменты (але па выяўленчым мастацтве) праводзяцца ў Польшчы і таксама даюць станоўчыя вынікі.

У 7—10 (7—11) класах дзве гадзіны ў тыдзень уводзяцца за кошт факультатываў.

Эксперымент пачаўся. Першы рашучы крок па распрацоўцы новай эксперыментальнай праграмы зроблен. Поспех будзе залежаць у першую чаргу ад таго, наколькі хутка адбудзецца псіхалагічная перабудова адносін настаўнікаў, кіраўнікоў школ, бацькоў да новай трактоўкі задач і мэт прадмета «Выяўленчае мастацтва» ў школе. Цяжкасцяў наперадзе нямала, але іх неабходна пераадолець. Бо вырашаецца задача дзяржаўнага значэння.

**І. ШЭШКА,**
старшы выкладчык малявання Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы.



**Спачатку — нават дотыку баяцца...**
**А потым крыл размах усё шырэй.**

**І нашы вочы ўсмешкаю іскрацца**
**На тварах падрастаючых дзяцей.**

Фота Ул. ЛУПЕЙКІ. (БЕЛТА).

---

З АРХІЎНЫХ ПАЛІЦ

# ДВА ЛІСТЫ СЫРАКОМЛІ

АСНОЎНАЙ мэтай майго апошняга наведання Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР былі бібліяграфічныя росшукі некаторых матэрыялаў «вясковага лірніка» Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча), якія пры жыцці паэта публікаваліся ў перыёдыцы, а пасля чамусьці былі забыты. Удалося, напрыклад, адшукаць рэцэнзію Сыракомлі на першы том збору народных казак, аповесцяў і гутарак А. Глінскага «Bajarz polski», выдадзены ў Вільні ў 1853 годзе. Рэцэнзія сведчыць пра тое, што «вясковы лірнік» глыбока цікавіўся пытаннямі збору і даследавання беларускага фальклору.

Не ўтрываў я, каб не зазірнуць і ў рукапісны аддзел бібліятэкі. У розных фондах тут захоўваюцца аўтографы і рукапісы асобных твораў паэта, а таксама частка ягонай эпісталярнай спадчыны.

Сыракомлеўскія матэрыялы гэтага аддзела, як быццам, усе ўжо вядомы і ўведзены ў навуковы ўжытак нашымі даследчыкамі. Але ж ці ўсё магло трапіць на вока.

І вось у выніку працяглых пошукаў у картатэцы натрапіў, здаецца, на нешта цікавае. Два лісты Сыракомлі. Невядомыя!

Першы адрасаваны Зыгмунту Заштаўту ў Мінск. Пра адрасата Сыракомлі мы ведаем толькі тое, што быў ён саветнікам Мінскага губернскага праўлення, спрабаваў пісаць, разы два друкаваўся ў краёвай газеце «Кур'ер віленьскі». Адна карэспандэнцыя З. Заштаўта, змешчаная на старонках «Кур'ера» 9 лістапада 1862 года за подпісам «Z. Z.» была напісана ў сувязі са смерцю Сыракомлі. У ёй расказвалася пра ўшанаванне памяці славутага земляка ў Мінску.

Аднак вернемся да ліста Сыракомлі. Быў напісаны ён у Вільні 24 сакавіка 1859 года. «Нязмерна важнымі старонкамі для гісторыі, — піша Сыракомля, — з'яўляюцца гэтыя дробныя, на першы погляд эфемерныя, справаздачы пра таварыскае жыццё пэўнага горада; я збіраю іх з розных гарадоў і колькі год». Дарэчы будзе сказаць, што ў 1857 годзе часопіс «Тэка віленьска» апублікаваў вялікі гісторыка-краязнаўчы нарыс паэта «Мінск», але, як відаць з ліста, Сыракомля працягваў збіраць звесткі пра жыццё краю і добра вядомага яму Мінска, каб дапоўніць ужо зробленае.

Цікава, што ў лісце Сыракомля імкнецца растлумачыць Заштаўту свае патрыятычныя пачуцці. Паэт жыў тады ў падвіленскай Барэйкаўшчыне і ў Вільні бываў часта, а ў Мінску—толькі наездамі. Таму Заштаўту, мабыць, здавалася, што, пасылаючы свае мінскія матэрыялы, ён тым самым вымагае ад «вясковага лірніка» большай увагі да Мінска. Сваімі сумненнямі Заштаўт, напэўна, падзяліўся з паэтам. Гэта выклікала прызнанне Сыракомлі: «Ці мог бы я гневацца, што падазраеце мяне ў аддачы перавагі Мінску перад Вільняй? Мінск я люблю як сталіцу правінцыі, дзе нарадзіўся, Вільню — як сталіцу майго краю, не ўмею адрозніць гэтай любві ад другой. Зрэшты, палеміка аб тым, хто болей любіць край, да дрэнных вынікаў прывесці не можа. Калі б мне загадалі абавязкова на Вас гневацца, дазволілі накласці кару, то я пакараў бы Вас жаданнем дасылаць мне ўсе свае артыкулы пра Мінск».

Завяршаючы ліст, Сыракомля просіць свайго карэспандэнта шырэй пісаць пра Мінскі тэатр, а таксама ўказвае на неабходнасць асвойвання тутэйшых аўтараў «з драматычнай крытыкай, каб яны не пагарджалі публікай і адчулі годнасць свайго прызвання». Ён адзначае, што «тэатр у народным пытанні мае важнае прызначэнне».

А цяпер — пра другі ліст, дакладней, запіску, пасланую вядомаму польска-беларускаму этнографу, выдаўцу-рэдактару газеты «Кур'ер віленьскі» Адаму Кіркору. У ёй Сыракомля высвятляе некаторыя непаразуменні, якія ўзніклі пры публікацыі ў «Кур'еры» яго артыкула, прысвечанага памяці мастака Вінцэнта Дмахоўскага, ураджэнца Ашмянскага павета. Вось поўны змест запіскі: «Бачу, любімы Адаме, як гневаешся і цiснешся, што я так распісаўся пра Дмахоўскага. Рэч вырасла пад рукою. Здавалася мне, што нельга было абысціся халоднай заметкай пра чалавека краёвага, чалавека, з якім мы з'елі пуд солі і ў якога не было іншых заган — толькі недахоп грошай. Прабач мне, прашу, а ўжо друкуй, як ёсць, нават добра б не разбіваць артыкула на два нумары. Твой Людвік». 2 сакавіка 1862 года, на дзесяты дзень пасля смерці В. Дмахоўскага, артыкул быў надрукаваны ў газеце. Прачулае слова пра таленавітага мастака, многія карціны якога ўвекавечылі журботныя закуткі Беларусі, было данесена да землякоў, як хацеў таго «вясковы лірнік».

**Уладзімір МАРХЕЛЬ.**

---

## РАДКІ З ПІСЕМ

□ У ліпені ў Буда-Кашалёўскі раён выязджалі артысты Гомельскага абласнога драматычнага тэатра. Спектакль «Хвалі пад намі» па п'есе Л. Сінельнікава, пастаўлены рэжысёрам Г. Вагау, быў паказаны на калгасных і саўгасных сцэнах.

**Р. КАЗЛОВА.**

□ У Гродзенскім культасветвучылішчы адбыўся чарговы выпуск. Трыццаць дзевяць кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці хутка прыступяць да самастойнай творчай працы.

**Ул. ДЗЕМІН.**

□ «Краю савецкі, новыя людзі, песняй вітаю я Вас». Так называецца тэматычная выстаўка, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння Я. Коласа, якая разгорнута ў Пярэжырскай сельскай бібліятэцы. На выстаўцы — творы Я. Коласа і кнігі пра Коласа. Нядаўна тут праведзена калектыўная чытка кніг «Незабыўнымі сцежкамі» С. Александровіча, «Колас расказвае пра сябе» М. Лужаніна і некаторых апавяданняў народнага песняра.

**П. СІЛІВОНЧЫК.**

□ Днямі ў Рэчыцкім гарадскім доме культуры адбыліся два канцэрты салістаў Кіеўскага тэатра оперы і балета імя Т. Р. Шаўчэнкі пры ўдзеле народнага артыста СССР Юрыя Гуляева і народнага артыста Украінскай ССР Канстанціна Агнявога.

У суправаджэнні інструментальнага ансамбля артысты выканалі народныя песні.

**І. САВІЦКІ.**

□ Хлебаробы калгаса «Бальшавік» Чэрыкаўскага раёна прымалі ў сябе артыстаў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Выступленні спевакоў, салістаў балета, акрабатаў, цікавы канферанс зрабілі праграму канцэрта цікавай і разнастайнай.

**І. СУРМАН.**

Вітаўтэ ЖЫЛІНСКАЙТЭ

## ДВА АПАВЯДАННІ

# ТРУШКОМ

*З ЦЫКЛА «САМСОНАС КАЦІНЕЛІС»*

АДНОЙЧЫ, слухаючы па радыё парады вядомага ўрача, Самсонас Кацінеліс даведаўся яшчэ пра адно дзівоснае адкрыццё медыцыны XX стагоддзя: няма лепшага лякарства ад усіх хвароб, чым звычайны бег трушком! Трушок, тлумачыў доктар, не толькі абнаўляе чалавека, не толькі вяртае яму выдатнае самаадчуванне (калі ён калі-небудзь такое меў), але і малодзіць фігуру... Калі бяжыш трушком — на сценках крываносных сасудаў не адкладваецца халестэрын, а той, які адклаўся раней, — не ўтрымліваецца на месцы!

Гэта здавалася так проста, пераканальна, блізка, што Самсонас, глянуўшы ў люстэрка, ужо не пазнаваў сябе: прамы, са стрыманай усмешкай, з выпучанымі грудзьмі каралеўскага пінгвіна... Ён нават уявіў сабе, што адстае ад поезда; поезд адыходзіць, а ён—пінгвін у добрым настроі, гоніцца за ім, даганяе, ускоквае на дах і па дахах вагонаў бяжыць у вагон-рэстаран, дзе па-каралеўску снедае...

На вуліцы імжэў нудны асенні дожджык, але гэтая перашкода толькі падагнала рашучасць Кацінеліса. Ён адшукаў у хлеўчуку паношаныя студэнцкія кеды, выцягнуў стары зліняласць берэт, нацягнуў палатаную вязанку і выбег на двор.

Пад нагамі хлюпала гразь, вецер зрываў з галавы берэт, вільгаць пранізвала да касцей. Кацінеліс звярнуў на пляцоўку каля пяціпавярховага дома — іншага месца не было.

Ён стараўся бегчы так, як раіў доктар: высока ўскідваючы калені, шырока размахваючы локцямі, удыхаючы паветра праз нос, выдыхаючы праз рот і не нахіляючыся. Ён бачыў, як у вокнах пяціпавярховага дома, быццам грыбы, вырастаюць твары. Па ўспацелай спіне Кацінеліса прабеглі мурашкі. Ногі мімаволі стараліся звярнуць далей ад цікаўных позіркаў. «А што потым?—спытаў ён сам сябе. — Адступіш — не вернешся... Няхай сабе глядзяць; паглядзяць і самі затрухаюць...»

Пакуль ён гэтак разважаў, на балконы выкаціліся хлопцы ў адных сарочках — глянуць на нябачанае дзіва. Пускаючы цыгарэтны дым з атлетычных грудзей, яны здзекліва сачылі за намаганнямі Кацінеліса, які цяжка соп.

— Цісні на тэмп, стары! — крыкнуў адзін з іх і пранізліва свіснуў.

— Што, дзеўкі гоняцца?— падкінуў другі.

Уздоўж фасада пяціпавярховага дома грымнуў выбух смеху.

А за адцягнутымі ўбок кухоннымі фіранкамі Кацінеліс бачыў хатніх гаспадынь. Іх Самсонас больш за ўсё баяўся: позіркі хатніх гаспадынь пранізвалі наскрозь.

«Ведаем, знаёмы з такімі,— гаварылі яны. — Гэткія жонак у магілу заганяюць, а самі як жарабцы! Апалонікам, апалонікам іх па хрыбце!» Яны і сапраўды размахвалі апалонікамі, і па спіне Самсонаса зноў пабеглі мурашкі.

Прахожыя таксама не маглі не спыніцца і не глянуць на цырк. Збягаліся, сыходзіліся з усіх бакоў — быццам апавешчаныя зазывалам; ужо здалёк заклапочана пыталіся:

— Што там? Апельсіны?

— Не, гавораць, жонка мужа нажом парнула...

— Глупства! Чалавек бульдога дрэсіруе!

Бегавую дарожку Самсонаса акружыла жывая людская сцяна; тыя, хто спазніўся, вешаліся адзін на аднаго, ствараючы жывыя трыбуны, перад якімі ні жывы ні мёртвы, кружыў Кацінеліс. «Удыхнуць праз нос, выдыхнуць праз рот і не страціць упартасці», — паўтарыў ён пра сябе, ледзьве пераводзячы дух.

— Хто гэта такі? — пыталіся гледачы адзін у аднаго.

— Вось з таго дома... Быццам да гэтага часу здаваўся нармальным.

— Можа, яго шалёны сабака пакусаў?

— Сапраўды, вочы як у вар'ята!

— Ха, ха, са штаноў пясок сыплецца.

«Забіце, засячыце — не адступлю! Не здамся! — сціскаў кулакі Кацінеліс. — Удыхнуць праз нос... нос... не страціць... э...» Ён ужо не бег, а таптаўся, як конь, запрэжаны ў манежы.

— Нядобра насміхацца, — уступіўся за яго хтосьці. — Можа, у яго такая хвароба. Магчыма, ён дзённы лунацік?

— Не лунацік, а бык! Бегае ад сляпнёў сярод белага дня, і толькі!

Самсонас ледзь стрымаўся, каб не схапіць і не прыдушыць бабку, якая вылезла наперад. «О жанчыны, жанчыны, дзе ваша хвалёная пяшчота, дабрата, паблажлівасць?» — прастагнаў ён у думках.

— Так, так, ён ужо трох жонак кінуў... гэты самы!— паўтарала, вылезшы наперад, другая.

— Качалкай бы такога! — ваяўніча зашумелі жаночыя галасы.

— Чортавы бабы! — падтрымалі Кацінеліса двое мужчын.

— Свой свайго здалёку бачыць!

Самсонас кружыў і кружыў на сваім пакутлівым шляху. Сілы яго пакідалі, у скронях стукала. Аблівала то халодным, то гарачым потам, у вачах памутнела... Ён ведаў толькі адно: нельга адступаць, вельмі позна адступаць... трэба бегчы трушком да таго часу, пакуль... пакуль... пакуль...

Раптам усходняя трыбуна стадыёна рассунулася, і на поле ўступіў міліцыянер.

— Што тут адбываецца? — строга спытаў ён і падышоў да Кацінеліса. — Грамадзянін, што вы тут робіце? Чаму парушаеце грамадскі парадак? Хто за вамі гоніцца?

Самсонас хацеў спыніцца, адвесці міліцыянера ўбок і па-сяброўску, як мужчына мужчыну, усё растлумачыць. Аднак ногі яму не падпарадкоўваліся — яны валакліся і валакліся, а губы звяла сутарга.

Міліцыянер павярнуўся да натоўпу:

— Хто ведае грамадзяніна? Хто дасць тлумачэнне?

Тут быццам закружыў віхор: жывы стадыён раптам рассунуўся ў бакі, рассыпаўся. Людзі пусціліся бегчы, падскокам, не паварочваючыся; пасярэдзіне вытаптанай пляцоўкі засталіся толькі Самсонас і міліцыянер.

Самсонас ужо не бег па крузе, а ваўчком круціўся вакол сябе. Ён быў амаль без памяці, калі пачуў загад «тпрру!!» — можа, са свайго нутра, магчыма, з боку — і ўпаў непрытомны...

Праз месяц ён зноў стаяў перад люстэркам у сваёй кватэры. На яго глядзеў змарнелы хваравіты чалавек: упалыя грудзі, нервова дрыжачы падбародак, зведзеная паралюшам нага... Так альбо інакш, прадказанне доктара збылося: Самсонас не пазнаваў сябе...

# АП'ЯНЕННЕ

—ПРАБАЧЦЕ, што даюць? — запыталася я ў чалавека, які стаяў у самым канцы чаргі.

— Талеркі.

— Талеркі...

Чарга стаяла вялікая, а талеркі мне былі непатрэбны зусім.

— Вы крайняя? — звярнуўся да мяне ззаду мужчына.

— Як быццам...— буркнула я.

— Дык я за вамі.

— А я — за вамі, — падскочыла да яго нейкая дзяўчына.

За мной выцягнуўся доўгі і шчыльны жывы частакол.

«Чаму б мне не купіць адну-дзве лішнія талеркі? — цвяроза падумала я. — Запаслівы бяды не церпіць. Тым больш, што яны вельмі б'юцца».

Чарга прасоўвалася ледзьледзь. Людзі куплялі талеркі тузінамі. Белыя іх горкі раставалі на вачах.

«Вазьму не адну і не дзве, а як належыць, шэсць»,—рашыла я.

Нейкая мамуля даверху нагрузіла талеркамі дзіцячую каляску і падштурхоўвала яе. Каляска жаласна рыпела спружынамі.

«Калі ўжо браць, дык цэлы тузін, — адважылася я, слухаючы рыпенне спружын. — Толькі б мне хапіла!».

Я са страхам глянула на горкі талерак, якія хутка зніклі. Наўрад ці дастанецца мне.

«Лепш за ўсё было б узяць паўсотні, — раздумвала я. — Толькі не данясу, паб'юцца...»

Чалавек, што стаяў перада мной, разгарнуў мяшок, пашыты з палаткі. У такі мяшок можна схаваць цэлую фабрыку посуду.

— Прабачце, — пацягнула я яго за рукаў, — ці няма ў вас выпадкова лішняга мяшка?

Ён нават не адказаў — падышла яго чарга.

У мяне бліснула выратавальная думка. Я зняла плашч, завязала яго рукавы, зашпіліла гузікі — выйшаў прыстойны паўмяшок!

«Што ў ім не змесціцца, — падумала я, — пакладу ў прыпол. Спадніца шырокая».

Аднак чалавек з палаткай так папрацаваў над горкай талерак, што ад яе засталіся вартыя жалю рэшткі.

«Не толькі прастора і час, але і чалавечая прагнасць бязмежныя!» — з горыччу раздумвала я, назіраючы, як ідзе ён, сагнуўшыся, быццам нагрузіўшы воз на плечы.

— Колькі вы возьмеце? — не ўтойваючы непакою, запытаў мужчына ззаду ў мяне. З-пад яго пінжака відаць былі голыя грудзі: з сарочкі ён паспеў зрабіць цудоўны мяшок.

— Трыста! — быццам сякерай адсекла я.

Ён толькі з цяжкасцю праглынуў сліну.

У гэты час загрымела, загрукатала, забарабаніла, і рабочыя ўцягнулі гару талерак. За ёй — другую. Трэцюю. Увесь магазін быў завалены талеркамі — іх белізна сляпіла вочы. За ўвесь свой век я не бачыла столькі талерак у адной кучы. Звар'яцелі яны, ці што?

— Вам колькі? — запыталася прадаўшчыца.

— Мне?

— Вам, вам.

За прылаўкам задрыжала сцяна. Відаць, там таксама складвалі горы талерак. Скрозь грукат я ледзь пачула свой тонкі, варты жалю галасок:

— Мне адну талерачку... Самую маленькую...

— Калі ласка.

— Якая вялікая! — здзівілася я. — Мне і палавіны хапіла б.

— Вам адрэзаць ці адламаць? — паслужліва спытала прадаўшчыца.

Я дурнавата заміргала.

— Нядобра здзекавацца з чалавека, — зрабіў вымову прадаўшчыцы галагрудзы. — Існуе такое паняцце: годнасць пакупніка, — дадаў ён, развязваючы мяшок і нацягваючы сарочку прама на пінжак. — Жартам тут не месца.

— Не разумею, чаго вы ад мяне хочаце? — надзвычай здзівілася прадаўшчыца.

— Яна яшчэ пытаецца!— абурыўся апрануты ў сарочку. — Пайшлі!

Мы выйшлі ўдваіх, а ўслед, салідарызуючыся з намі і зашпільваючы плашчы, пінжакі і курткі, паспешліва выбеглі некалькі дзесяткаў пакупнікоў.



Мал. Віталіюса СУХОЦКІСА (літоўскі часопіс «Шлуота»).

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 32-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.




Індэкс 63856 АТ 01906